# БЯРОЗКА

*Штомесячны дзіцячы часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМБ*

*Пролетарыі усіх краін, еднайцеся!*

№ 8—9

**Жнівень—верасень**

Выдавецтва ЦК ЛКСМБ



3 верасня савецкі народ святкаваў Дзень Перамогі над Японіяй.

Імперыялістычная Японія — наш стары вораг. Японскія генералы адкрыта хваліліся, што захопяць нашу краіну аж да Урала.

У 1904 годзе Японіі ўдалося захапіць у царскай Расіі паўднёвую палавіну Сахаліна, Порт-Артур і горад Дальні. Ей удалося захапіць таксама Курыльскія астравы і адрэзаць Расію ад Ціхага акіяна.

Не раз спрабавалі японскія генералы захапіць нашы савецкія землі і пасля Кастрычніка. Але Чырвоная Армія заўсёды давала ім рашучы адпор.

У час Айчыннай вайны Японія рыхтавала паход на Савецкі Саюз і чакала толькі зручнага моманту. Японцы заяўлялі, што пачнуць вайну, як толькі немцы возьмуць Маскву.

Савецкія войскі пад кіраўніцтвам свайго правадыра таварыша Сталіна разграмілі фашысцкую Германію. Настаў час разлічыцца і з разбойніцкай Японіяй.

9 жніўня 1945 года савецкія войскі пачалі наступленне супроць Японіі. Нашы часці за кароткі тэрмін разбілі Квантунскую армію, якая налічвала мільён салдат.

2 верасня 1945 года Японія падпісала акт аб капітуляцыі.

Перамога над Японіяй прынесла новую славу савецкай зброі. Мы вярнулі назад Сахалін і Курыльскія астравы.

На здымку: маракі-дэсантнікі Ціхаакіянскага флота ўзнімаюць сцяг Ваенна-Марскога Флота СССР над затокай Порт-Артура. (Здымак зроблен 25 жніўня 1945 года).

Да барацьбы за справу Леніна Сталіна будзь гатоў!

ЗАЎСЁДЫ ГАТОЎ

## УРАЧЫСТАЕ АБЯЦАННЕ ЮНАГА ПІОНЕРА

Я, юны піонер Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, перад тварам сваіх таварышоў абяцаю, што буду цвёрда стаяць за справу Леніна—Сталіна, за перамогу камунізма.

Абяцаю жыць і вучыцца так, каб стаць дастойным грамадзянінам сваёй Сацыялістычнай Радзімы.





# КАНЕЦ ЛЕТА

*Пятро ГЛЕБКА*

Яблыкі паспелі...
У ярах глыбокіх
Дацвітае лета
Цветам жураўвін.
Адспявалі песні
На палях шырокіх,
Заспяваюць скора
Ў небе журавы.
Заўтра нам у школу...
Развітацца трэба
З тымі, з кім гулялі
Летняю парой:
З нашым шумным лесам,
З нашым сінім небам,
З нашаю блакітнай
Быстраю ракой.
Мы ідзем на поле...
Тонкім павуціннем
І расой халоднай
Крыецца прастор.
Мы ідзем у пушчу—
Быццам у кручыне,
Галаву схіляе
Старадаўні бор.

Мы ідзем да рэчкі...
З намі па дарозе
З поўначы сцюдзёны
Подых вецярка.
І над ім на воды
Ліст раняюць лозы,
І шуміць маркотна
Нашая рака.
Чуе—скора лёдам
Будзе ўся адзета,
На палях закружаць
Белыя снягі...
Да спаткання-ж, рэчка!
Да другога лета,
Дарагія пушчы,
Нівы і лугі!
Заўтра нам у школу...
За сталы, за парты
Сядзем мы па класах,
Будзем працаваць,
Будзем весяліцца
І вучыцца ўпарта,
Будзем вечарамі
Лета ўспамінаць.



# Піонерскі гальштук

Кожны піонер носіць чырвоны гальштук, як знак прыналежнасці да піонерскай арганізацыі.

Пра чырвоны гальштук на Першым усесаюзным злёце юных піонераў у 1929 годзе гаварыў Лазар Майсеевіч Кагановіч:

«Чырвоны гальштук на вашых грудзях прапітаны крывёю соцень і тысяч змагароў. Тысячы змагароў былі павешаны, расстраляны памешчыкамі і капіталістамі, тысячы змагароў гнілі ў царскіх турмах... Насіце-ж з гонарам гэты чырвоны гальштук, моцна трымайце ў сваіх руках чырвоны сцяг комунізма».

Піонерскі гальштук мае тры канцы ў знак непарушнай дружбы трох пакаленняў—комуністаў, комсамольцаў і піонераў.

У той-жа прамове на Першым усесаюзным піонерскім злёце Лазар Майсеевіч Кагановіч сказаў:

«Памятайце: ваш чырвоны гальштук—гэтая адзнака сувязі трох пакаленняў—абавязвае вас, юных піонераў, змагацца за рэволюцыйныя традыцыі старога пакалення, пакалення Леніна, пакалення старых большэвікоў, за справу нашай вялікай пролетарскай комуністычнай партыі».

Чырвоны гальштук піонер носіць у школе, дома і на вуліцы. Піонер даражыць сваім гальштукам, як часткай чырвонага сцяга, як адзнакай сувязі і адзінства комуністаў, комсамольцаў і піонераў.

У Айчынную вайну многія піонеры перажылі жахі нямецкай няволі. Але і ў тылу ворага яны паказалі сябе вернымі сынамі сваёй Радзімы, сапраўднымі юнымі ленінцамі. Яны не ўранілі піонерскай чэсці, захавалі ад немцаў свае чырвоныя гальштукі.

У адным з сёл Украіны ўвосень 1941 г. быў такі выпадак. У хату, дзе жыла піонерка Галя Дацэнка, уварваўся нямецкі салдат. Ён капаўся на паліцах, у скрынках, шафах, у сундуках.

У руках у Галі быў вучнёўскі партфель. Немец падышоў да яе і, не кажучы ні слова, вырваў з яе рук партфель. Ён паклаў яго на стол і пачаў выкідаць усё, што было ў партфелі. Паляцелі на падлогу падручнікі, кнігі, сшыткі, і раптам... немца нібы апякло. З партфеля выпаў новы піонерскі гальштук.

— Кляйн комуніст!—закрычаў немец. Як шалёны, ён схапіў чырвоны гальштук, кінуў яго на падлогу і пачаў таптаць.

Галя кінулася на фашыста.

— Навошта ты топчаш мой піонерскі гальштук?—крыкнула яна і з усяе сілы штурхнула немца.

Салдат збянтэжыўся. Ён, відаць, і не чакаў, што маленькая савецкая дзяўчынка асмеліцца штурхнуць яго.

А Галя, выхапіўшы з-пад ног немца гальштук, выскачыла з хаты і пабегла ў лес. Яна чула за сабою крыкі немцаў і страляніну з аўтаматаў. Але Галя паспела схавацца ад ворагаў у лесе.

Два гады прабыла Галя ў партызанскім атрадзе. А калі Чырвоная Армія вызваліла яе вёску, Галя зноў пайшла ў школу. На грудзях у яе чырванее піонерскі гальштук, той самы, які яна ўвосень 1941 года вырвала з рук нямецкага бандыта.

Так берагуць піонеры чырвоны гальштук, так даражаць сваёй піонерскай чэсцю.




## Піонерскі значок

Нагрудны значок юнага піонера ўяўляе з сябе чырвоную пяціканцовую зорку, радыусам у 1,5 сантыметра. Над зоркай узнімаюцца тры языкі полымя. Два ніжніх канцы зоркі апаясаны белай істужкай з надпісам «Всегда готов». Гэта—значок юнага піонера Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Тры языкі полымя гэтак-жа, як тры канцы піонерскага гальштука, гавораць аб непарушнасці сувязі трох пакаленняў—комуністаў, комсамольцаў і піонераў.

Уверсе пяціканцовай зоркі знаходзіцца малюнак сярпа і молата—эмблема (знак) Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Кожны піонер павінен памятаць словы Надзежды Канстанцінаўны Крупскай аб нагрудным значку юнага піонера:

— Значок даецца піонеру не як узнагарода, не за добрадзейнасць, не для таго, каб выхваляцца ім, а як знак прыналежнасці да піонерскай арганізацыі, у якую піонер уступіў добраахвотна.



# Балотны капітан

В. ЖУЧКЕВІЧ

Мал. В. Ціхановіча

У першы дзень экзаменаў Паўлік Крывіцкі надзеў марскую форму. Ён атрымаў яе ў пасылцы ад дзядзькі Фёдара, капітана аднаго з чорнаморскіх параходаў. Усё было ў Паўліка, як у сапраўднага марака: паласаты цельнік, чорная куртка і шапка-бесказырка з надпісам: «Черноморский флот».

На вуліцы дзеці з цікавасцю глядзелі на марака, але Паўлік не звяртаў на іх увагі. Ён лічыў, што яму засталося быць дома ўжо нядоўга: у апошнім пісьме дзядзька Фёдар абяцаў узяць пляменніка да сябе на параход.

У школе адчувалася нейкая асаблівая ўрачыстасць. Вучні былі чыста адзеты, добра прычасаны. Усе чакалі пачатку першага экзамена па роднай мове. Паўлік стаяў у баку, асобна ад другіх, і чакаў. Ён хацеў паказаць, што заняты зусім іншымі думкамі.

Дзяжурная настаўніца падышла да Паўліка.

— Ты ўжо сапраўдны марак!—сказала яна.

— Я збіраюся ехаць у Адэсу,—важна адказаў Паўлік.—Дзядзька Фёдар хутка прыедзе ў водпуск і забярэ мяне на параход.

— Жадаю табе стаць капітанам,—адказала настаўніца,—але ўсё-ж вучыцца трэба лепш.

Словы настаўніцы не спадабаліся Паўліку. Ён толькі і марыў аб параходзе, а настаўніца ўспомніла пра апошні ўрок геаграфіі, на якім Паўлік не мог расказаць аб компасе, а на карце не мог паказаць Уральскіх гор.

— Навошта мне гэта ведаць,—разважаў ён.—Дзядзька быў калісьці ў такіх цудоўных месцах, як Баб-эль-Мандэб і Макасар. Гэта цікавей, чым Урал.

Празвінеў званок. Паўлік разам з іншымі ўвайшоў у клас і моўчкі сеў на апошнюю парту.

Тэма для пераказу зацікавіла яго. Трэба было напісаць пераказ апавядання Льва Талстога «Акула». Паўлік уявіў сабе, што знаходзіцца недзе каля Баб-эль-Мандэба, на караблі, і змагаецца супроць цэлай чарады акул. Потым яму ўспомніліся кіты, і ён дадаў іх да свайго пераказу. Пісаў ён так ахвотна і так доўга, што толькі, калі настаўніца нахілілася над яго сшыткам, убачыў, што застаўся ў класе зусім адзін. «Так мы змагаліся з кітамі»,—закончыў ён свой пераказ, паставіў вялікую кропку і аддаў лісток.

Увечары Паўлік падаўся на вуліцу і з важным выглядам пачаў хадзіць каля дзяцей, якія гулялі ў лапту.

— Давай да нас!—паклікаў яго Сяргей Баркан.

Але Паўлік нібы нічога не чуў. Ён вышаў не для гульні.

— Не чапай яго,—сказаў адзін з гуляючых,—ці-ж ты не ведаеш, што гэта «капітан», ён не пойдзе з намі гуляць.

Хлопцы засмяяліся. Паўлік, нібы нічога не чуючы, памалу пайшоў дахаты.

Праз дзень на вусных іспытах настаўніца запытала Паўліка:

— Што-ж ты панапісваў у сваім пераказе? Я вам не чытала пра кітоў. А колькі памылак нарабіў! Пісьмовая работа напісана ў цябе на «2».

Паўлік нездаволена апусціў галаву, узяў білет, адказаў на два пытанні, заблытаўся і, атрымаўшы за адказ «3», пабег дадому.

Яго чакала радасная вестка: дзядзька Фёдар едзе сюды, у Забалацце, і заўтра будзе на станцыі Васілевічы з гомельскім поездам. Прачытаўшы тэлеграму, Паўлік хацеў зараз-жа бегчы на станцыю.

— Куды-ж ты пойдзеш,—запярэчыла маці,—табе-ж заўтра ў школу трэба.

Але Паўлік не слухаў.

— Заўтра ў нас экзаменаў няма, а па арыфметыцы я ўжо даўно гатоў,—адказаў ён.

— Ну, добра,—згадзілася маці,—раніцой пойдзеш, бо мне самой заўтра ніяк нельга будзе з брыгады адлучацца.

Паўлік быў упэўнены, што сустрэнецца з дзядзькам Фёдарам, і яны разам паедуць у Адэсу.

Станцыя была далёка — па дарозе не менш дваццаці кіламетраў, праўда, па сцежках праз лес і балота можна было прайсці напрамік.

Раніцой, толькі ўзышло сонца, Паўлік з торбачкай за плячыма накіраваўся да станцыі. Да паўдня ён быў ужо там.

Поезд павінен быў прыбыць у шэсць гадзін вечара. Чакаючы яго, Паўлік вучыўся хадзіць па адной рэйцы, некалькі разоў падыходзіў да касы запытацца, ці не спазняецца поезд, глядзеў, як манеўровы паравоз пераганяе вагоны, хадзіў піць ваду, разглядаў рэшткі спаленых нямецкіх танкаў. Але час усё-ж ішоў марудна.

Каля шасці гадзін ля станцыі пачалі збірацца жанчыны з рыбай, сырам, малаком для праязджаючых пасажыраў. Хутка з-за лесу паказаўся і поезд; ён падышоў да станцыі, даў свісток і спыніўся.

Паўлік бачыў, як з першага вагона сышоў высокі загарэлы чалавек у марской форме. Не магло быць сумнення ў тым, што гэта быў дзядзька Фёдар.

Паўлік хутка падбег да яго.

— Дзень добры, дзядзька Фёдар! — сказаў ён моцна.

Дзядзька адступіў на крок і з цікавасцю паглядзеў на хлопчыка.

— Дык гэта ты мой пляменнік Паўлік Крывіцкі?—сказаў ён.—І марская форма тая-ж, што я з «Бодрага» прыслаў.

— Але,—адказаў Паўлік,—я ваш пляменнік.

Дзядзька абняў хлопчыка і пацалаваў яго ў твар.

— Ты, як бачу я, зусім сапраўдны марак, мабыць, рыхтуешся да мяне на «Бодры» паступіць, — гаварыў дзядзька, а потым пачаў пытацца пра вёску, пра маці і цётак.

У буфеце на станцыі дзядзька купіў бутэрбродаў, цукерак і іншых смачных рэчаў. Паўлік шчыра дзякаваў за частаванне.

— Дык пойдзем у Забалацце,—сказаў, нарэшце, пляменнік.—Па дарозе вельмі



*Паўлік з важным выглядам пачаў хадзіць каля дзяцей.*

далёка, машыны не ходзяць, а напрамік праз лес да заходу сонца зойдзем.

Пайшлі па сцежцы. З вёскі дзядзька Фёдар выехаў год дваццаць таму назад і цяпер не мог пазнаць ні станцыі, ні дарог, ні вёсак. Дзядзька ўвесь час пытаўся аб калгасным жыцці, аб дзейнасці партызан у час нямецкай акупацыі. Але, калі ён пытаўся ў пляменніка аб яго занятках у школе, Паўлік нездаволена адказваў:

— Так, вучуся нішто, зараз у пятым класе...

Між тым лясная сцежка рабілася ўсё вузейшай. У некаторых месцах дарогу перагароджвала паваленае дрэва ці куча галля. Відаць было, што людзі мала хадзілі тут. А сонца тымчасам хілілася да заходу. Цэлыя воблакі камароў суправаджалі пешаходаў, недзе далёка крумкалі жабы, а ў гушчарах рабілася ўжо зусім цёмна.

«Мусіць, я не той сцежкай пайшоў», падумаў Паўлік і спалохаўся ад гэтай думкі.

— Дзядзька,—раптам спытаў ён,—а вам не страшна ўвечары ў лесе?

—Які-ж тут страх,—адказаў дзядзька Фёдар, — можа ты баішся, дык пойдзем хутчэй.

— Не,—адказаў Паўлік,—я ніколі не ведаю страху. Калі будзем разам у моры, дык вы ў гэтым пераканаецеся.

І яны пайшлі хутчэй. Часта галлё лазы чаплялася за адзежу, сцежка зусім перарывалася ці падыходзіла да балота. Але вось кусты пачалі радзець, і ледзь прыкметная сцежка вышла на бязлесную прастору. Справа было шырокае балота, злева працякала рэчка. Як ні стараўся Паўлік знайсці ў гэтай мясцовасці што-небудзь знаёмае, — нічога не знайшоў. Ён яшчэ больш пераконваўся, што заблудзіўся.

— Ты заўсёды гэтай дарогай ходзіш?—спытаўся дзядзька.

— Не,—адказаў Паўлік,—але я павёў тут, каб хутчэй прыйсці дадому.

Паўліку здавалася, што трэба ісці проста ўперад і перайсці на другі бераг рэчкі. Непадалёку паваленае бервяно перакідвалася праз рэчку. Паўлік смела ступіў на яго і перайшоў на другі бераг. Дзядзька пайшоў услед за ім. Але і на другім беразе таксама нельга было знайсці ніякай сцежкі. Паўлік пайшоў праз зараснікі. Пад нагамі хлюпала вада; часамі траплялі на нейкія купіны і прабіваліся праз густыя кусты. Хутка на шляху яшчэ раз сустрэлася рэчка: давялося перайсці яе ўброд.

Між тым сонца ўжо зайшло. Стала зусім ціха; над балотам узняўся туман: у небе заблішчэла першая зорка.

— Ці не заблудзіўся ты, хлопча? — запытаўся дзядька.—Бачыш, светлае месца на захадзе было ў нас то ўперадзе, то справа, то злева, а зараз зусім ззаду.

Але Паўлік не надаваў гэтаму ніякага значэння. Ён прапанаваў перайсці яшчэ раз рэчку ўброд і пайшоў у напрамку да вялікага бязлеснага ўзгорка. Ён саромеўся прызнацца, што заблудзіўся. Цемната пачынала палохаць яго, але, пазіраючы на дзядзькаў пісталет, ён супакойваўся.

Перайшоўшы яшчэ раз рэчку, яны апынуліся перад дрыгвой, якую ніяк нельга было перайсці. Паўлік спыніўся і пачаў азірацца вакол. Дзядзька сеў на камень, памаўчаў і, нарэшце, сказаў:

— Калі заблудзіўся, дык так і скажы, будзем шукаць дарогу разам.

Паўлік памаўчаў, але потым парашыў прызнацца:

— Мы, мусіць, у Жураўскія балоты трапілі, трэба ісці назад,—сказаў ён.

Дзядзька паклаў сваю цяжкую руку на Паўлікава плячо і паглядзеў яму ў твар.

— Нічога, — сказаў ён, — да раніцы будзем у Забалацці. У якім напрамку трэба ісці ад станцыі да вёскі?

— Вось так проста,—адказаў Паўлік і паказаў рукой.

— Ну вось ты ішоў проста, але заблудзіўся. Я пытаю, ці трэба ісці на захад, ці на ўсход, ці на поўдзень, ці на поўнач.

Паўлік маўчаў. Ён ніколі не цікавіўся гэтым.

— Хіба табе ў школе не казалі, як арыентавацца па сонцу і зорках?

Паўлік не разумеў гэтай справы, але ўспомніў толькі, што за гэту тэму атрымаў некалі «2».

— З якога боку было ў цябе сонца, калі ты раніцою ішоў на станцыю?

— Яно было ўвесь час злева,—адказаў Паўлік.



*Перайшоўшы яшчэ раз рэчку, яны апынуліся перад дрыгвой.*

— Значыцца, ты ішоў на поўдзень; нам з табою трэба было ісці назад увесь час на поўнач, а ты ўвесь час адхіляўся на ўсход.

Але Паўлік не зусім разумеў.

— На якім беразе ракі стаіць Забалацце?—зноў пытаўся дзядзька.

Паўлік маўчаў.

— Калі ты выйдзеш з сваёй хаты і станеш тварам да рэчкі, у які бок цячэ рака?

Паўлік падумаў, але потым успомніў.

— Управа,—адказаў ён.

— Гэта значыць, што вёска стаіць на правым беразе рэчкі, нам трэба вярнуцца на другі бераг назад і пайсці на захад уздоўж ракі.

Паўлік недаверліва паглядзеў на дзядзьку. Ён не верыў, што гэта так.

— Зараз разумееш? — запытаўся дзядзька.—Вось табе компас, ідзі і трымайся правага берага ракі.

Але Паўлік не ведаў, што рабіць з компасам.

— У нас у школе быў нейкі іншы компас,—сказаў ён і аддаў компас дзядзьку.

— Ну, добра,—згадзіўся дзядзька,—дык ідзі так, каб палярная зорка была ў цябе ўвесь час справа.

Але Паўлік не разумеў і гэтага.

— Ну, дык ідзі за мною, я цябе павяду,—сказаў, нарэшце, дзядзька Фёдар і перайшоў на другі бераг рэчкі.

Яны пайшлі ўздоўж берага. Рака то вілася тут-жа побач, то адыходзіла кудысьці далёка ўправа. Чорнаморскі капітан ішоў хутка, напрамік праз купіны і кусты, быццам ён жыў тут ужо даўно і нікуды не выязджаў. Паўлік толькі дзіву даваўся. Ішлі доўга. Ужо канчалася кароткая летняя ноч, калі раптам ля крутога берага, як з-пад зямлі вырас

нейкі будынак. Падышлі бліжэй. Гэта быў калгасны ток. Недалёка была ўжо і хата Крывіцкіх.

Паўлік убачыў у сваім акенцы святло. Маці не спала. Яна, мабыць, непакоілася аб сыне і нешта рабіла каля печы.

— Наша хата!—не стрымаўся Паўлік.

Увайшлі ў хату. Пачаліся прывітанні. Не гледзячы на позні час, маці згатавала частаванне. Паўлік, зрабіўшы такі вялікі пераход, еў з апетытам.

Дзядзька пытаўся пра жыццё ў калгасе, апавядаў аб сваім жыцці, але нічога не казаў аб пляменніку. А думкі Паўлікавы зноў плылі да парахода.

Раніцой, калі дзядька, нарэшце, пайшоў адпачываць, Паўлік падышоў да яго і запытаўся:

— Дзядзька Фёдар, а калі ты мяне на свой параход возьмеш?

Дзядзька памаўчаў, а потым сказаў:

— У гэтым годзе яшчэ не варта цябе браць.

Паўлік аж пачырванеў.

— Які-ж з цябе марак,—казаў дзядзька,—ты-ж нават у родных краях заблудзіўся. Ты нават не ведаеш, што рабіць з компасам, не можаш арыентавацца па зорках, не ведаеш, дзе левы і дзе правы бераг ракі. Што-ж ты на моры будзеш рабіць? Якая адзнака ў цябе па геаграфіі?

— «2», — адказаў Паўлік, апусціўшы галаву.

— Ясна,—сказаў дзядзька,—нам такіх маракоў не трэба.

— Дык я навучуся хоць машыністам,—нясмела сказаў Паўлік.

— Машыністаў у нас пакуль што хапае, але патрэбен перакладчык з англійскай мовы. Добрая работа. Дарэчы, як у цябе з англійскай мовай?

Паўлік яшчэ ніжэй апусціў галаву.

— Вось бачыш,—сказаў дзядька, — і тут дрэнна. Хачу я цябе на параход узяць, вельмі хачу. Але цяпер не вазьму. Павучыся яшчэ зіму, атрымай добрыя адзнакі па ўсіх прадметах, тады вазьму з сабой, навучу марской справе.

Паўлік стаяў моўчкі.

— А зараз ідзі ў школу, марскую форму схавай, — дадаў дзядзька, — зараз не трэба яшчэ яе надзяваць.

Паўлік ледзь не плакаў. Калі назаўтра ён ішоў на экзамен па арыфметыцы, вясковыя хлапчукі казалі:

— Глядзі, наш балотны капітан на сухазем'е вылез.

Але Паўлік цвёрда парашыў стаць сапраўдным капітанам. Ён паабяцаў дзядзьку будучы вучэбны год закончыць з выдатнымі адзнакамі, а зараз быў заняты думкамі аб экзамене.





# МОЙ ТАТА

*Эдзі АГНЯЦВЕТ*

Мой тата дом высокі
Узводзіць пад аблокі.

Цаглінка за цаглінкай
Кладзецца без супынку.

Расла, расла,
расла сцяна,
І хутка вырасла яна

Вышэй бярозы белай,
Што блізка тут шумела.

Як добра тату угары —
Там побач з ім яго сябры!

І крыкнуў я да таты:
— Я не пайду дахаты!

Вазьмі ў памочнікі мяне,
З табою буду на сцяне

Узводзіць дом высокі
Пад самыя аблокі!

Мал. Ю. Пучынскага

# *Шлях героя*

Е. САДОУСКІ

Вёска, дзе нарадзіўся Павел Галавачоў, была акружана лясамі. У гэтых лясах ён і правёў свае дзіцячыя гады. Што там за лесам, які там свет — хлопчык не ведаў, хоць яму і вельмі хацелася пабыць у тых загадкавых мясцінах.

Бацька Паўла служыў лесніком, ніколі далёка не адлучаўся, і мала аб чым мог расказаць сыну з таго, што яго цікавіла. А Павел з дзяцінства выяўляў да ўсяго цікаўнасць. Ён добра разбіраўся ў лясных дрэвах, у травах і кветках, што раслі на палянках, умеў без памылкі пазнаваць галасы птушак.

Вучыўся Павел старанна і з ахвотай; больш за ўсё любіў чытаць кнігі. Тады-ж, у дзіцячыя гады, трапілася яму кніга аб авіяцыі, і ён прачытаў яе некалькі разоў. З кнігі ён даведаўся, што лятаць могуць не толькі птушкі, а і людзі. А калі аднойчы над лесам паказаўся самалёт, Павел нават узабраўся на дрэва, каб лепш разглядзець гэтую незвычайную крылатую птушку. Хлопчык доўга пасля думаў аб самалётах, аб шчаслівых людзях, якія лятаюць у паветры. У думках ён нават уяўляў сябе на месцы лётчыка. Але гэта былі звычайныя дзіцячыя мары.

Жыццё-ж яго пайшло пакуль што іншым шляхам. Падлеткам Павел стаў працаваць у соўгасе. Ён працаваў гэтакжа старанна і з ахвотай, як і вучыўся ў школе. Дырэктару соўгаса спадабаўся гэты працавіты, здольны да ўсякай работы падлетак.

Аднойчы ён сказаў Паўлу:

— А чаму-б табе не павучыцца, хлопча? Кім-бы ты хацеў быць?

Павел успомніў пра самалёты. Лётчыкам — вось кім хацеў-бы ён быць!

Але не асмеліўся і выказаць сваю мару дырэктару, бо вельмі-ж яна ўжо здавалася недасягальнай. І ён адказаў скромна:

— Хачу вучыцца ў рабочай школе...

Паўла паслалі ў школу фабрычнага вучнёўства Нова-беліцкага лесакамбіната. Два гады вучыўся ён у школе, але жаданне стаць лётчыкам не пакідала яго. Цяпер ён часта бачыў і самалёты і лётчыкаў, якім вельмі зайздросціў. Скончыўшы школу, ён, нарэшце, парашыў паспрабаваць шчасця: падаў заяву ў Гомельскі аэраклуб. Яго прынялі. З гэтага часу пачалося для яго новае жыццё.

Мінуў год упартай вучобы, і Павел ужо сам вадзіў вучэбны самалёт.

Нарэшце такі збылася яго самая шчаслівая мара. Ён стаў тым, кім жадаў быць з дзяцінства. А каб яшчэ лепш ведаць лётную справу, ён скончыў адэскую авіяцыйную школу. Цяпер ён ужо свабодна мог лятаць на розных самалётах.

Пачалася Айчынная вайна. Цудоўны майстра авіяцыі капітан Павел Якаўлевіч Галавачоў уступіў у бой з фашыстамі.

У 127 паветраных баях давялося пабываць Паўлу Якаўлевічу. Ён сам збіў 31 фашысцкі самалёт.

Аднойчы пад Сталінградам ён адзін смела рынуўся на 12 варожых самалётаў. Спрытна, нібы акрабат, манеўрыраваў «ястрабок» капітана Галавачова па-

між нямецкімі машынамі. Метка выпускаў Павел Якаўлевіч кулямётную чаргу за чаргой і прымушаў немцаў рассыпацца ў розныя бакі. Тры самалёты збіў ён у гэтым баі. Яго «ястрабок» атрымаў дзесяткі прабоін, але вопытны пілот усё-ж давёў свой самалёт да аэрадрома і здаў у рамонт.

За баі пад Сталінградам капітан Галавачоў атрымаў першую Залатую звязду. А калі пад Кенігсбергам ён на вышыні дзевяці тысяч метраў працараніў нямецкі бамбардыроўшчык, урад узнагародзіў яго другой Залатой звяздой.

Зараз адзін з лепшых совецкіх лётчыкаў, сын беларускага лесніка Павел Галавачоў, зноў вучыцца лётнай справе. Але цяпер ён вучыцца ў самай вышэйшай лётнай школе—Паветранай Акадэміі.

Нядаўна маскоўскі скульптар Гаўрылаў зрабіў бюст П. Я. Галавачова. Бюст будзе ўстаноўлены ў Гомелі, у тым горадзе, дзе пачаў вучыцца лётнай справе двойчы Герой Совецкага Саюза Павел Якаўлевіч Галавачоў.



*Творчасць нашых чытачоў*

## ВЫЙДУ

Выйду летнім ранкам
З востраю касой,
З новаю мянташкай,
З песняй удалой.

Заспявае тонка
Вострая каса.
Пырсне мне на ногі
Буйная раса.

Роўненька і чыста
Пракладу пракос.
А навокал свішчуць
Ды дзесяткі кос...

А навокал льецца
Ды мядовы пах...
А трава кладзецца!
А шырэй размах!

А любоў да працы
Сіл імкнецца даць...
Ні, хіба-ж не шчасце —
Жыць і працаваць!

*Нінел ГІЛЕВІЧ*
вучань 6 кл. Гаенскай школы.

## УСХОД СОНЦА

На небе паказалася ўзыходзячае сонца. Малінавыя прамені паліліся па небасхіле. Узвіліся ў неба жаўранкі і весела віталі сонца:

— Добры дзень, дарагое сонца!

— Добры дзень, сонца!—загулі ў вуллях пчолы.

— Добры дзень! — радасна шапталі дрэвы, адбіваючы паклоны.

З вёскі віталі сонца людзі.

Усюды ўсё ажывілася. Дрэвы кідалі густы цень на мяккую і зялёную траву. Кветкі шчасліва смяяліся, пазіраючы на сонца.

Па траве бегалі вясёлыя хвалі.

Нават ажывіўся стары дуб на беразе ракі і радасна кіўнуў сваёй галавою.

*Валодзя ВАРВАШЭНЯ*

4 кл., Быстрыцкая школа, Капыльскага раёна.



# НАРОДНЫ ПЯСНЯР

У нашай краіне няма ніводнага чалавека, які не ведаў-бы Якуба Коласа — старэйшага песняра беларускай зямлі, народнага паэта БССР. І дарослыя, і дзеці з захапленнем чытаюць яго паэмы «Новая зямля» і «Сымон музыка», аповесці і раманы «У палескай глушы», «У глыбі Палесся», «На прасторах жыцця», «Дрыгва» ды інш. Шмат якія творы Якуба Коласа перакладзены на рускую мову і мовы братніх народаў савецкай краіны. Якуба Коласа любяць і ведаюць у нашай краіне таму, што ён з'яўляецца сапраўдным народным паэтам, уся творчасць і дзейнасць якога глыбока звязаны з жыццём народа, з мужным і чэсным служэннем сваёй Радзіме.

Якуб Колас нарадзіўся 3-га лістапада 1882 года ў лясной глушы па-над Нёмнам, у хаце беззямельнага селяніна Міхася Міцкевіча, які служыў лесніком у магната Радзівіла. Тое месца, дзе нарадзіўся паэт (засценак Акінчыцы), дзе прайшлі яго першыя дзіцячыя гады, вельмі паэтычна і прыгожа апісана ім у паэме «Новая зямля».

Каля пасады лесніковай
Цягнуўся гожаю падковай
Стары, высокі лес цяністы...
А знізу гэты лес кашлаты
Меў зелянюсенькія шаты
Лазы, чаромхі ці крушыны,
Алешын ліпкіх, верабіны.
Глядзіш, бывала, і здаецца,
Што скрозь сцяну галін жывую,
Скрозь гэту тканку маладую
Ні мыш, ні пташка не праб'ецца.

Тут, у гэтым чароўным лясным царстве, вучыўся складаць свае першыя вершы Якуб Колас. Але мала радаснага і вясёлага было ў змесце гэтых вершаў. Радзіма паэта ў тыя дні жыла цёмным і беспрасветным жыццём. Беларускі народ задыхаўся пад прыгнётам памешчыкаў і царскіх чыноўнікаў. Яму не дазвалялася гаварыць на роднай мове, друкаваць сваіх кніжак, вучыць дзяцей у школах. У

адным з ранніх сваіх вершаў Якуб Колас пісаў:

Не пытайце, не прасіце
Светлых песень у мяне,
Бо як песню заспяваю,
Жаль вам душу скалыхне.
Я-б смяяўся, жартаваў-бы,
Каб вас чуць развесяліць,
Ды на жыцце як паглядзіш,
Сэрца болем зашчыміць.

Рэволюцыя 1905 года абудзіла сілы беларускага народа. Пачыналася паласа новага часу, новых дум, новых песень. Захоплены рэволюцыяй, Якуб Колас пайшоў разам з народам на барацьбу з царскім ладам. У 1908 годзе за ўдзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе царскі суд асудзіў Коласа на тры гады турмы. Але нішто не магло зламаць волі паэта да змагання. Паэт цвёрда верыў у тое, што

Усё-ж такі, хоць некалі,
А праўды дачакаемся.

З турмы Якуб Колас вышаў яшчэ больш загартаваным песняром, яшчэ больш магутна загучэлі яго вершы гневам і пратэстам супроць царскіх парадкаў. Зборнік яго вершаў «Песні жальбы», які вышаў у 1910 годзе, поўны заклікаў да барацьбы і гарачай веры ў перамогу народа.

Якуб Колас, як і ўсе лепшыя сыны чалавецтва, заўсёды імкнуўся да будучыні, да светлага, радаснага жыцця. Дарогу к такому жыццю адкрыла паэту, як і ўсяму беларускаму народу, Вялікая Кастрычніцкая социялістычная рэволюцыя.

Магутным патокам паліліся з грудзей паэта песні аб любімай совецкай Радзіме, аб яе гераічным народзе, які ўпершыню за сваю гісторыю пазнаў радасць свабоднай творчай працы. Ён радаваўся кожнаму новаму кроку, зробленаму совецкай краінай наперад.

Я вітаю вялікі, шырокі разгон
Нашых дзён маладых,
Гоман творчасці іх...
Дык ярчэй-жа гары, сонца радасных дзён!

Шчаслівы і горды за свой народ, паэт нястомна працаваў над стварэннем усё новых і новых твораў. Шмат сваіх твораў прысвяціў ён шчаслівым совецкім дзецям.

Калі звярыныя полчышчы фашыстаў хлынулі на нашу Радзіму, Колас стаў у першыя рады змагароў за перамогу над фашызмам, за вялікую справу Леніна—Сталіна. Ён заклікаў народ на помсту, на барацьбу супроць фашысцкіх катаў.

За гады вайны Якубам Коласам напісаны зборнікі вершаў «Праўдадыру, народу», «Голас зямлі», паэмы «Суд у лесе», «Адплата», многа апавяданняў, нарысаў, артыкулаў. З пачуццём бязмежнай радасці ўспрыймаў паэт кожную зводку, якая паведамляла аб перамогах совецкай зброі, аб слаўных подзвігах гераічнай Чырвонай Арміі. Самыя цёплыя і задушэўныя словы знаходзіў ён для выражэння сваіх сардэчных пачуццяў воінам-пераможцам:

Якія словы, песні-хвалы
Злажу я вам, багатыры?
І слоў маіх, і песень мала,
Каб вам прыняць іх за дары.
Вышэй вы песень самых звонкіх
І самых шчырых слоў-пахвал.
Вы—сонца роднае старонкі,
Зямлі вясёлкавы крышталь.

Вярнуўшыся ў вызваленую Чырвонай Арміяй Беларусь, Якуб Колас з захапленнем працуе над стварэннем новых твораў, вартых нашага гераічнага часу.

У верасні гэтага года спаўняецца сорак год літаратурнай дзейнасці народнага паэта БССР Якуба Коласа. Яго жыццё і праца—яркі ўзор адданага служэння свайму народу. Совецкі ўрад высока ацаніў працу народнага песняра. Ён узнагароджан ордэнамі і медалямі Совецкага Саюза, а ў гэтым годзе за новыя творы яму была прысуджана Сталінская прэмія І-й ступені.

Пажадаем-жа нашаму любімаму песняру яшчэ доўгіх год жыцця і творчай працы.

**Ул. АГІЕВІЧ.**



# Вятрыска

*Максім ЛУЖАНІН* — *Мал. В. Сухаверхава*

Бегла, бегла па дарозе
Жарабятка пры абозе.
Перш трымалася пры матцы,
Потым стала аставацца,
Стала мураву шчыпаць
І паціху маці зваць.
А пасля на бок сышло,
Пастаяла і лягло.
Заіржала звонка маці
Па прапаўшым жарабяці.
Ды хіба ў яе пыталі?
Не, вядома. Паганялі.

Доўгі, доўгі йшоў абоз —
Ці на пяць, ці дзесяць вёрст.
Я не знаю, што ён вёз, —
Гэта немцы яго гналі.
Пачакаўшы, я з сябрамі
Жарабя прывёў дамоў
І гукнуў, зайшоўшы ў браму:
— Паглядзі, што я знайшоў!
Маці кажа:
— Адбяруць
Ды табе ў каршэнь дадуць.

Я кажу ёй:
— Я схаваю!
Я кажу ёй:
— Не аддам!
Я у немцаў не спытаю,
Я ім сам па карку дам.



А як прыдзецца пагана,
Калі немец прыдзе ў дом,
Я падамся ў партызаны,
Прымуць:
Я з сваім канём!
Маці болей не казала,
Пастаяла,
Памаўчала.

Блізка тыдня цёплым пойлам
Я каня свайго адпойваў.
Было клопату, але
Хутка конь павесялеў:
Апусціўшы галаву,
Скуб у садзіку траву,
А пасля на тонкіх цыбах
Абягаць пачаў сядзібу.
Як паставіць хвост трубою,
Заіржэ ды паляціць!
Але я махну рукою, —
Як укопаны стаіць.
Вось удаўся конь які:
Белазоры,
Беланогі,
Бег за мной ва ўсе дарогі:
Ад ракі і да ракі
Нас заўсёды йшло чацвёра, —
Я,
Мой конь
І шчанюкі.
Пёс адзін мой зваўся Лыска,
А другі—за голас—Звон.
Я каня назваў Вятрыска,
А за тое, што спрыцён.

Стаў мой конь у сілу брацца,
Трэба недзе з ім хавацца,
Дзе — ладу не дабяру!
Як прыедуць немцы конна,
Мне на сэрцы неспакойна —
Прыдуць зараз, забяруць.
Я хаваў каня ў таку
За саломай, у кутку.
Так заўжды перадрыжыш,
За аброць яго трымаеш
І паціху размаўляеш:
— Стой, Вятрыска,
Немец блізка,
Галубок, не заіржы!
Пачакай, пакуль сцямнее,
Нас тады не ўсцеражэш! —
Ён-жа мову разумее,
Хоць і хоча, а не ржэ.
Стаў я хутка рыхтавацца,
Каб цішком у лес падацца,
Стаў харчы прыдабываць,
А мяне за руку — хваць!



Маці кажа:
— Ты куды?
Я адказваю:
— Туды...
Маці кажа:
— А як я?
Ты-ж уся мая сям'я.
Бацька недзе на вайне,
А ты кідаеш мяне. —
Я слязіны не ўраніў,
Але губу прыкусіў.

Адным словам, без гаворак,
Па тым беразе ракі
Маці йшла і нас чацвёра:
Я,
Мой конь
І шчанюкі.
Лес я знаў, усё знайшоў,
Далажыў:
— Я к вам прышоў.
Паглядзеў на нас адзін,
А пасля як зарагоча:
— Будзе добры камандзір,
Хоць і з мамай ходзіць ноччу.
Што-ж, будуй сабе жытло,
Каб цяплейшае было.
Мы зіму празімавалі,
Каня ў сані закладалі;
Праўду кажучы, хамут
Не ў спадобу быў яму,
А за тое пад сядлом
Ён смаліў, як перуном,
З ім было мне ўсюды блізка,
Ратаваў мяне ў бядзе.
Партызанскі конь Вятрыска
Куды хочаш завязе.
Ваяваў атрад наш лоўка,
Толькі я быў без вінтоўкі,
Не давалі аўтамат,
Гаварылі:
— Малават!
Але часта на разведку
Ездзіў я з сваім канём,
Ўзнагароджаны за гэта
Партызанскім медалём.

Так прышоў канец вайны.
Мы вярнуліся дахаты.
А з наступнае вясны
Прычакалі свайго тату.
Ён ізноў цяпер у нас
Старшыня на ўвесь калгас.
Мы сябруем з ім лагодна —
Ўзнагароджаны абодва,
Хоць па колькасці адзнак
Мне не ўгнацца аніяк.
А мой конь ужо далёка,
Не пабачыш простым вокам;
Я аддаў яго байцам,



Маладым кавалерыстам:
— Партызанскі конь Вятрыска
Хай цяпер паслужыць вам!
Ты перад дарожкаю
Тупні, сівы, ножкаю!
Я слязіны не ўраніў,
Але губу прыкусіў.
Мне байцы лісты прыслалі,
Аб сваім жыцці пісалі
І падзякавалі:
Конь —
Самы жвавы, як агонь.
Я вучуся, я спакойны,
За каня я вельмі рад,
Бо на гэткім ехаць конна
Можа нават сам Будзённы
Хоць куды,
Хоць на парад!





*Па плану пяцігодкі*

## ПАДРУЧНІКІ, СШЫТКІ, АЛОЎКІ

У Законе аб пяцігадовым плане сказана: у 1950 годзе ў Совецкім Саюзе будзе 193 тысячы школ, і вучыцца ў іх будзе 31 мільён 800 тысяч дзяцей.

На працягу бліжэйшых пяці год будзе пабудавана шмат новых школ. Партыя і ўрад клапоцяцца аб школах і аб тым, каб у вучняў хапала падручнікаў, сшыткаў, алоўкаў, пер'яў.

Ужо да канца гэтага года адных толькі падручнікаў на рускай мове (не лічачы тых, што выдаюцца на мовах другіх народаў СССР) будзе выдана 40 мільёнаў экземпляраў. Гэта амаль у два з паловай разы больш, чым было выдана ў мінулым годзе. А ў 1950 годзе па плану пяцігодкі вучні атрымаюць такіх падручнікаў ужо 110 мільёнаў экземпляраў. Калі-ж падручнікі на рускай мове, якія будуць выданы за ўсю пяцігодку, скласці разам, атрымаецца 390 мільёнаў экземпляраў.

У 1945 годзе папяровыя фабрыкі выпусцілі 500 мільёнаў сшыткаў. На працягу 1946 года яны дадуць 767 мільёнаў. А ў 1950 годзе вучні атрымаюць 2 мільярды 333 мільёны сшыткаў! Гэта шмат больш, чым было да вайны.

У гэтым годзе фабрыкі выпусцяць 250 мільёнаў алоўкаў, у 1947 г.—330 мільёнаў, а ў 1950 г. — 700 мільёнаў. Яшчэ больш будзе выраблена пер'яў: у 1946 годзе—450 мільёнаў, а ў 1950 г.—900 мільёнаў.

З кожным годам усё больш і больш будзе вырабляцца ранцаў, партфеляў, школьных сумак, глобусаў і гатавальняў для чарчэння.



# ШКЛЯНОЕ ВОКА

*Ігар ВСЕВАЛОЖСКІ*

*Мал. Д. Красільнікава*

Галоўныя героі гэтай гісторыі цяпер падраслі так, што родныя і знаёмыя пачалі іх адрозніваць. У Гогі адраслі вялікія чорныя вусікі, а ў Гіго вусы яшчэ ніяк не могуць прабіцца. А ўвосень 1942 года нават родная маці не адразу адрознівала Гогі ад Гіго, а бацька блізнюкоў—горны інжынер Петрэ Сахадзе, сустрэўшыся з адным з двух, заўсёды пытаўся:

—Скажы мне, калі ласка, ты Гогі ці ты Гіго?

— Гогі,—адказваў хлопчык.

— Ну, дык скажы, Гогі, маме, каб накрывала стол. — Надзя! — клікаў ён жонку,—ты-б ім розныя гальштукі завязвала, ці што... Гогі, напрыклад, малінавы, а Гіго—сіні...

Але хлапчукі насілі чырвоныя піянерскія гальштукі; маці адзявала іх у аднолькавыя касцюмы з кароткімі штонікамі; яны былі абодва чорнавалосыя, стрыжаныя бобрыкам, смуглявыя і зубы ў іх былі белыя, а вочы—чорныя, бліскучыя.

Такое падабенства было для блізнюкоў выгадным, але часта і нявыгадным. У школе, бывала, Гогі адказваў за Гіго ўрок, якога той не ведаў, і наадварот. Аднойчы Гогі, ідучы ў школу, раздражніў калматага сабаку, які вартаваў хлебапякарню. Сабака быў злапамятлівы, дачакаўся, калі рэбяты варочаліся са школы і, пераблытаўшы блізнюкоў (як бачыце, быў абмануты нават сабачы нюх), разадраў штаны Гіго. У другі-ж раз у лазні цёршчык, не разабраўшыся, двойчы ўважліва вымыў Гіго, а Гогі астаўся нявымытым.

Словам, з блізнюкамі здаралася гэтулькі смешных непаразуменняў, што аб іх можна было-б расказваць цэлы вечар.

У суровую восень 1942 года немцы падыходзілі да ваенна-грузінскай дарогі. Яны пагражалі Баку і Тбілісі. Але старая дарога ў гарах была ўмацавана так, што кожны выступ скалы, кожнае птушынае гняздо і стары разбураны замак таілі ў сабе смерць ворагу. У рабоце па ўмацаванню дарог прымаў удзел і горны інжынер Сахадзе, бацька Гогі і Гіго.

Ворагі ўсімі спосабамі дамагаліся выявіць план умацавання. Амаль кожны дзень застава ў Дар'яльскай цясніне затрымлівала падазроных асоб. Аднаго разу быў зняты з машыны хлапчук, які нібыта згубіў матку і плакаў горкімі слязамі. Ён аказаўся трыццаціпяцігадовым ліліпутам і старым шпіёнам.

Словам, майму сябру, капітану Пятру Сяргеевічу, тут было шмат работы. Аднойчы Пётр Сяргеевіч пазнаёміў мяне з Петрэ Сахадзе і з яго слаўнымі блізнюкамі. Я пачуў гісторыю, якую вам і раскажу.

* * *

Аднаго разу, калі маці блізнюкоў паехала ў госці да бабулі ў суседні горад, Петрэ Сахадзе атрымаў ліст ад старога сябра. Сябра пісаў, што ён хутка будзе ў Тбілісі і наведае Петрэ.

Інжынер вельмі ўзрадаваўся. Але таму, што ён быў вельмі заняты ў штабе фронта, а маці ўсё яшчэ гасцявала ў бабулі, інжынер строга загадаў Гогі і Гіго адлучацца з дому па адным, каб у кожную хвіліну хто-небудзь з іх мог сустрэць і прыняць бацькавага старога сябра. Такі загад не вельмі спадабаўся блізнюкам, але ім усё-ж хацелася пабачыць як мага хутчэй бацькавага сябра, асабліва пасля таго, як бацька расказаў, што адно вока ў яго шкляное.

— Яно так удала расфарбавана,—апавядаў інжынер,—што вы нават не адрозніце яго ад сапраўднага.

— А чаму ў яго ўстаўленае вока? — запытаўся Гогі.

— Мы падрывалі гару,—адказаў бацька,—і адзін з асколкаў упіўся яму ў вока. Гэта было вялікае няшчасце. Ну, мне час ісці,—заспяшаўся Сахадзе.—Калі ён пазвоніць па тэлефону, адказвайце як мага далікатней і клічце яго хутчэй у госці. У буфеце стаіць віно, у шафе на кухні—бараніна, зеляніна, сыр. Частуйце яго, слухайце яго апавяданні, затрымайце да майго прыхода. Ну, да пабачэння, хлопчыкі,—скончыў бацька, пачуўшы за акном знаёмы гудок машыны.

Мінуў дзень, другі, трэці, хлопчыкі па чарзе дзяжурылі дома і кулём кідаліся да тэлефона ці ў пярэдні пакой, ледзь толькі чуўся званок. Але і званілі і прыходзілі розныя людзі—кур'еры, паштальёны, знаёмыя—і ніводзін з іх не быў старым бацькавым сябрам.

Нарэшце, у суботу Гогі пайшоў у цырк, а Гіго астаўся дома на варце. Раптам зазваніў тэлефон. Гіго падняў трубку: «Кватэра Сахадзе», — сказаў ён. Нейчы спакойны голас запытаўся пра інжынера.

— Хто пра яго пытаецца?—запытаўся Гіго.

— Яго стары сябра.

— Татаў сябра! — усклікнуў радасна Гіго. — Дык хутчэй прыязджайце, тата вас чакае.

— Тата дома? Пакліч яго, калі ласка, да тэлефона.

— Ды не, таты няма, але ён будзе... ён вернецца роўна ў дзесяць гадзін, а вы прыязджайце хутчэй, я хачу... (Гіго ледзь не вымавіў: я хачу паглядзець на ваша шкляное вока), я хачу пачаставаць вас. Мы разам пачакаем тату.

— Ты хіба дома адзін?

— Канешне, адзін... І мне вельмі сумна.

— Еду.

Гіго мігам накрыў на стол чысты абрус, дастаў з буфета бутэльку віна, сыр, халодную бараніну, радыску і масла. Час ішоў марудна. Але вось пачуўся званок. Гіго кінуўся ў пярэдні пакой, адчыніў дзверы... На парозе стаяў чалавек у калматым шэрым паліто і ў мяккім фетравым капелюшы.

— Ну, добры вечар,—сказаў ён весела і так ласкава, што Гіго адразу зразумеў: гэта і ёсць бацькаў сябра!

— Уваходзьце, уваходзьце! — сказаў ён.

Бацькаў сябра зняў паліто і капялюш і ўвайшоў у сталовую. У яго былі чорныя валасы, з пасівелымі скронямі, чыста выгаленыя шчокі: было зусім непрыкметна, што адно з двух шэрых вачэй—шкляное. «Тата-ж казаў, што яно вельмі расфарбавана,—успомніў Гіго і пачаў частаваць госця. Госць піў віно, еў, частаваўся, а потым, нібы штосьці ўспомніўшы, усхапіўся, стукнуў сябе рукой па лбу.

— Які-ж я бязмозглы чалавек! Прыходжу ў госці да сябра і нічога не прыношу яго сыну! А сын, напэўна, любіць чурчхелу*) і пірожнае «Напалеон». Вось табе грошы, бічыко**),—бацькаў сябра даў Гіго трыццаць рублёў,—я бачыў магазін унізе, у вашым доме. Купі сабе на ўсе, без здачы.

Гіго памятаў, што бацька строга забараніў пакідаць чужых адных у кватэры, але-ж гэта быў не чужы, а стары бацькаў сябра, з якім бацька разам узрываў горы!

— Што-ж ты марудзіш, хлопча? Магазін зачыніцца, позна ўжо.

І яго вочы (адно з іх было шкляное, але якое—Гіго не мог пазнаць) так ласкава глядзелі на хлопчыка і так падганялі яго ісці па салодкае, што ён кулём спусціўся ўніз па лесніцы, выбег на вуліцу і ўвайшоў у магазін.

Тым часам у цырку адмянілі відовішча,

*) Чурчхела—ласунак.
**) Бічыко—хлопчык.

і Гогі вярнуўся дахаты. Падняўся на трэці паверх і адкрыў сваім ключом дзверы. Ён убачыў яркае святло ў сталовым пакоі. Высокі чалавек сядзеў за бацькавым пісьмовым сталом і нешта чытаў.

— Так скора?—запытаўся ён, жбава адвярнуўшыся.

«Татаў сябра», падумаў Гогі. — «А дзе-ж Гіго?»

— Дзе-ж твая чурчхела?—запытаўся бацькаў сябра.—Дзе «Напалеон»? Ці мо' зачынілі магазін?

— Не, магазін адчынены,—не разумеючы, пры чым тут чурчхела, прамармытаў Гогі.

—Дык ідзі-ж, купляй. Ці табе нехапае грошай? Вось табе яшчэ!

Бацькаў сябра дастаў трыццаць рублёў і падаў Гогі.

У спешцы Гогі падумаў: Гіго, мабыць, парашыў, што калі Гогі прыдзе з цырка, яны ўволю пасмяюцца над здзіўленнем бацькавага сябра.

— Бяжы-ж! Бяжы!—падганяў бацькаў сябра.

— Вось пацеха! Ён думае, што я Гіго,—падумаў Гогі.—Ну што-ж? Чалавек дае грошы на чурчхелу—пабягу па чурчхелу...

...«Гэты хлапчук лётае як куля,—падумаў госць, калі пачуў, што дзверы за Гогі зачыніліся.—Трэба спяшацца, а то ён, чаго добрага, вернецца. Ну, не, я маю не менш дзесяці хвілін. Яму трэба сыйсці ўніз з трэцяга паверха, зайсці ў магазін, пачакаць, пакуль адважаць чурчхелу, заплаціць грошы ў касу... Чорт вазьмі, гэты стол замыкаецца з усялякімі фокусамі!»

Не паспеў адкрыць ён скрынку пісьмовага стала, як дзверы зноў стукнулі, і, толькі ён паспеў адскочыць на сярэдзіну пакоя, — перад ім стаяў з усмешкай ва ўвесь рот хлапчук, з рукамі напоўненымі піражнымі і чурчхелай.

— Ты што... фокуснік?—запытаў бацькаў сябра, здзіўлена вытрашчыўшы на Гіго вочы. Ён да гэтага часу не здагадваўся, што хлопчыкаў двое.

Гіго таксама нічога не разумеў. Ён-жа не ведаў, што Гогі ўжо вярнуўся з цырка. Праўда, на цёмнай лесніцы нехта



*«Бацькаў сябра» зламаў стол і шустра пачаў капацца ў паперах.*

ледзь не збіў яго з ног, але хто гэта быў—невядома. Гіго паклаў на стол пакеты і глядзеў на бацькавага сябра, стараючыся разабрацца, якое-ж вока—шкляное. «Ну і здорава-ж яно расфарбавана, ні за што не адрозніш!»—падумаў Гіго.

— Ты не хлопчык, а маланка,—сказаў бацькаў сябра з жалем.

— У мяне прадавец знаёмы, і я атрымаў усё без чаргі,—пахваліўся Гіго.—Хочаце чурчхелы? Смачная,—прапанаваў ён.

Але бацькаў сябра і не паглядзеў на чурчхелу. Ён падышоў да стала, наліў сабе шклянку віна, выпіў адным духам. Потым ён раптам пахіснуўся, схапіўся за сэрца і асунуўся ў крэсле. Ён закрыў рукою вочы.

— Што з вамі? — усклікнуў Гіго. — Вам дрэнна? Вады?

— Калі можаш,—сказаў голасам паміраючага бацькаў сябра.—Нагрэй мне вады; у вас-жа, здаецца, ёсць газ у ванным пакоі?

— Але,—сказаў Гіго.

— З дарогі... сэрца,—зусім слабым голасам прамармытаў бацькаў сябра.—Старасць—не радасць...

«Бедны ты, бедны»—падумаў Гіго, ідучы ў ванны пакой.—«І ўсё, мусіць, ад таго, што асколак скалы трапіў табе у вока некалі»...

Варта было «бацькаваму сябру» пачуць, як у ванным пакоі пацякла вада, як ён з лёгкасцю старога аблезлага ката двума скачкамі апынуўся ў калідоры і замкнуў дзверы. Дарэмна Гіго стукаў у дзверы кулакамі, дарэмна крычаў, каб яго выпусцілі... «Бацькаў сябра» зламаў стол і шустра капаўся ў паперах...

— Што вы робіце?—пачуў ён раптам за спіною.

Гэта было так неспадзявана, што «бацькаў сябра» падумаў, што ён траціць розум. Хлапчук, якога ён толькі што запёр у ванным пакоі і які яшчэ стукаў і крычаў, каб яго выпусцілі, стаяў зараз перад ім, нагружаны чурчхелай і «Напалеонам»... «Бацькаў сябра», ашалеўшы, кінуўся на Гогу і пачаў душыць яго... але ў гэты час спакойны голас сказаў:

— Рукі ўверх!



«Бацькаў сябра» пакінуў Гогу і падняў рукі. На парозе сталовага пакоя стаяў Пётр Сяргеевіч, трымаючы ў руках рэвольвер.

— Апрытомнеў?—спытаўся Пётр Сяргеевіч у Гогі, які цёр сабе шыю.—Пайдзі, адчыні ванны пакой, выпусці брата, ты чуеш, ён стукае...

— Двое?—усклікнуў «бацькаў сябра», апускаючыся ў крэсла...

— Але, блізнюкі,—весела падцвердзіў Пётр Сяргеевіч. — Вы на гэта не разлічвалі? Я ўжо цэлы тыдзень іду па вашых слядах і нарэшце дагнаў вас... з невялічкім спазненнем, на жаль, бо ледзь-ледзь не пацярпеў слаўны хлопчык.

— Дык вось вы які, татаў сябра!—у адзін голас сказалі Гогі і Гіго, якія ўбеглі ў пакой.

— А ён зусім мне не сябра,—пачуўся ў дзвярах голас інжынера Петрэ Сахадзе.—Мой сябра заехаў па мяне на работу, і мы прышлі вячэраць. Палкоўнік, прашу!

І з пярэдняга пакоя ўвайшоў плячысты і тоўсты інжынер-палкоўнік з ордэнам Леніна на грудзях. І Гогі і Гіго адразу ўбачылі, што правае вока палкоўніка вельмі і вельмі добра расфарбавана, але ўсё-ж яно шкляное, як яму і належала быць...




## ПЕРШАБЫТНЫЯ ЛЮДЗІ

Выдатны рускі падарожнік і вучоны Міклуха-Маклай нарадзіўся ў 1846 годзе. Радзіма яго — пасёлак Раждзественскае, Ноўгарадскай губерні.

Вучыўся ён у Пецербургу, куды пераехаў з маткай пасля смерці бацькі. Але з універсітэта яго выключылі за ўдзел у студэнцкіх сходах. Ён паехаў за мяжу і там закончыў вучобу. Пасля пачаў займацца навуковай работай па заалогіі. Аднак яго цікавілі і іншыя навукі, асабліва навука аб чалавеку—антрапалогія.



*Карвет «Віцязь».*

У той час шмат якія вучоныя даводзілі, што не ўсе людзі роўныя; таму белыя могуць прыгнятаць людзей з іншым колерам скуры. Зусім другой думкі трымаліся перадавыя вучоныя. Яны даводзілі, што ўсе людзі роўныя і што злачынна глядзець на каляровых людзей, як на жывёлу.

Да гэтых вучоных далучыўся і Міклуха-Маклай. Ён парашыў заняцца вывучэннем каляровых людзей.

І вось у 1871 годзе рускі карабель «Віцязь» спыніўся ў затоцы Астралябія, ля Новай Гвінеі. З карабля сышоў на бераг малады рускі вучоны Міклуха-Маклай.

Ніхто з белых людзей яшчэ не ступаў на гэту зямлю. Мараплавальнікі апавядалі, што там жыве дзікі народ—папуасы, якія адразу схопяць і заб'юць белага чалавека.

Міклуха і два яго спадарожнікі пайшлі шукаць вёску. Неўзабаве ў кустах яны ўбачылі чалавека. Чалавек быў голы, толькі падпяразаны нечым падобным да пояса. У руках у яго была завостраная костка, падобная на нож.

Туземец анямеў ад страху, — думаў, што яго заб'юць гэтыя невядомыя белыя людзі. Але Міклуха-Маклай узяў яго за руку, абняў, і яны разам пайшлі ў вёску.

У вёсцы іх акружылі папуаскія воіны. У руках яны трымалі каменныя сякеры і былі падобны да першабытных людзей.

Рускі госць раздаў ім розныя падарункі. Папуасы з цікавасцю разглядалі навінкі і хутка пасябравалі з белым чалавекам. Асабліва пасябраваў Туй — так звалі папуаса, які першы сустрэў Міклуху-Маклая ў кустах.

Матросы пабудавалі вучонаму хатку на беразе, і карабель адплыў назад.

## ТАМО-РУС

З першага-ж дня Міклуха-Маклай заняўся сваёй працай. Ён вывучаў прыроду края і яго насельнікаў. Яго хатка стала цэлым навуковым інстытутам.

Нялёгкая гэта была работа. Ён не ведаў мовы папуасаў. Цэлых дзесяць дзён яму прыйшлося патраціць, каб даведацца,



*Папуаская хацінка.*



*Хацінка Міклухі-Маклая.*

як сказаць слова «добра». Ён даваў папуасам спрабаваць розныя нясмачныя рэчы; папуасы спрабавалі, круцілі галовамі і гаварылі па-свойму. Потым ён паказваў ім і даваў самыя цікавыя і смачныя рэчы, і так, урэшце, даведаўся, як сказаць па іхняму «добра».

Вучонаму патрэбна было сабраць узоры валасоў папуасаў. Але нават Туй уцёк ад яго, калі ўбачыў жалезныя ножніцы... Міклуха-Маклай здагадаўся: ён спачатку выстрыг частку сваіх валасоў і перадаў Тую. Туземец зразумеў, што рускі сябра хоча абмяняцца з ім валасамі ў знак дружбы. Тады і ён згадзіўся даць шматок сваіх валасоў. Так прышлося вучонаму раздаць усе свае валасы з галавы і барады. Аб гэтым ён расказаў у сваім дзённіку, які вёў увесь час.

Аднойчы Міклуха-Маклай пайшоў у вёску, дзе жыло адно ваяўнічае племя. Гэтага племені баяліся нават самі папуасы. Туй знакамі папярэджваў свайго сябра, каб не ішоў туды. Але ён не паслухаў. Для яго навука была вышэй усяго.

У вёсцы вучонага спаткалі стрэламі з лукаў. Потым яго акружылі воіны з каменнымі коп'ямі ў руках.

Яны вось-вось гатовы былі забіць белага чалавека. Але вучоны трымаў сябе спакойна. Ён думаў: што зрабіць, каб супакоіць гэтых людзей? Потым убачыў каля шалаша пасцель з галля. Ён моўчкі сеў, зняў чаравікі і... лёг спаць.

Папуасы ўбачылі, што гэта мірны чалавек, што ніякай крыўды, відаць, ён не збіраецца ім рабіць. Яны супакоіліся і паселі вакол яго. Хутка Міклуха-Маклай набыў сяброў і ў гэтай вёсцы.

Папуасы вельмі любілі Міклуху-Маклая. Ён быў для іх сапраўдным сябрам: лячыў іх, вучыў урабляць зямлю, разводзіць культурныя расліны і навучыў вырабляць прылады з жалеза. Ён падарыў ім прывезеную з сабой хатнюю жывёлу: быка і цялушку. І папуасы пачалі разводзіць кароў, якіх не мелі да таго часу.

«Тамо-рус», гэта значыць рускі чалавек,—так празвалі яны Міклуху-Маклая.

У снежні 1882 года сюды прыбыў рускі карабель. Міклуха-Маклай сабраўся ў дарогу. Папуасы вельмі шкадавалі аб гэтым і не хацелі адпусціць яго ад сябе. У дзень ад'езда па ўсім беразе грымелі барабаны, гарэлі факелы. Папуасы на руках неслі да берага свайго лепшага друга.

Шмат яшчэ падарожнічаў Міклуха-Маклай па астравах Ціхага акіяна, шмат карысці прынёс ён і для навукі і для туземных народаў. Усюды ён горача абараняў адсталыя туземныя народы ад уціску з боку белых захопнікаў.

Вярнуўся Міклуха-Маклай у Пецербург праз 16 год. Тут ён захварэў і памёр у красавіку 1888 года.








*З замалёвак Міклухі-Маклая: 1) Папуаскі хлопчык Ахмет, з якім Міклуха-Маклай падарожнічаў у 1873—1875 г. г. 2) Жыхар Новай Гвінеі. 3) Дзевяцігадовая дзяўчынка Ега.*

# Слухай—запамінай

(Азбука ў вершах)

*Алесь ЯКІМОВІЧ* *Мал. Ф. Круглянскага*



Алік азбуку чытае,
Ада брату памагае.

Бродзяць важна па балотах
Бацяны ў чырвоных ботах.

Вельмі мудры верабей
Вучыць грамаце дзяцей.

Гыля, гусі, гусяняты,
Гыля, шэрыя, дахаты!

Дрозд на дрэве распявае,—
Добры голас дроздзік мае.

Ехаў лесам на кані я,
Елкі там растуць густыя.

Жук ударыўся аб клён.
Жу-жу-жу! заенчыў ён.

Змей узвіўся над лясамі.
Змея мы зрабілі самі.

Іней лёг у дзень марозны
І на елкі і на сосны.

Кошка мышак налавіла,
Кацянятак накарміла.

Леў у лесе зарычаў,—
Лес навокал задрыжаў.

Мячык, мячык добра скача.
Мячык б'юць, а ён не плача.

Наш Палкан, як воўк, паганы:
Не жартуйце вы з Палканам!

Орша—горад на Дняпры.
О—шукай у буквары.

Пыл пыліцца між бяроз:
Па дарозе едзе воз.

Рак—не рыба, ды ядуць,
Ракі ў возеры жывуць.

Салавей—малая пташка.
Салаўю спяваць не цяжка.

Таракан жыве на печы.
Там ён грэе свае плечы.

Ураджай багаты ў нас.
Убіраць яго ўжо час.

Федзя—хлопчык невялічкі.
Феня—Федзева сястрычка.

Хітры ліс на кур глядзіць:
Хоча пеўніка схапіць.

Цэлы дзень я працаваў—
Цацкі брату майстраваў.

Чайнік весела шуміць:
Чай гатоў, сядайце піць!

Швачка наша цёця Юля
Шоўкам вышыла кашулю.

Шчупака злавіў рыбак,
Шчоўкнуў зноў назад шчупак.

Этажэрка поўна кніг.
Эх, каб мог чытаць я іх!

Юрка—юны піонер.
Юрка з гальштукам цяпер.

Ягад шмат у нашым гаю.
Я ўсе літары ўжо знаю!



# На калгасных палях

## НАШЫ ПАМОЧНІКІ

Наш калгас «Чырвоны сад»—адзін з багацейшых у Аршанскім раёне. Вельмі часта да нас прыязджаюць госці з суседніх калгасаў. Мы паказваем ім свае палі, фермы, новыя пабудовы. Стаханаўцы калгаса расказваюць, як яны змагаюцца за высокі ўраджай. Госці вельмі ўважліва слухаюць гэтыя расказы. Яны нават запісваюць вопыт работы лепшых нашых людзей, каб пасля перадаць другім.

— Вы не забудзьце пра нашых памочнікаў,—кажам мы ім.—Каб не нашы памочнікі, мы не мелі-б такіх дасягненняў...

А памочнікі гэтыя—нашы дзеці, школьнікі. Многім з іх яшчэ толькі восем год мінула, але ўсе яны вельмі добра дапамагаюць калгасу. Добра папрацавалі яны і ў гэтае лета. Дзяўчаты палолі, хлапчукі акучвалі бульбу, скародзілі. Калі надышоў час касіць,—школьнікі выехалі на калгасны луг. Яны сушылі, зграбалі і складвалі ў копы сена, тапталі вазы. У жніво школьнікі кожны дзень зжыналі больш трох гектараў калгаснага збожжа.

Аднойчы калгасніцы мне сказалі:

— У нас вельмі шмат прападае дарма часу. З поля мы ходзім абедаць у вёску. А каб нам прыносілі абед у поле, дык тады мы ўдвая скарацілі-б абедзены перапынак.

Гэтая прапанова ўсім нам вельмі спадабалася. Але хто будзе насіць абед у поле? Усе дарослыя заняты на важнай рабоце. Падумалі мы і рашылі: даручыць гэтую справу дзецям. Так і зрабілі. З гэтага дня калгасніцы абедалі ў полі.

Цяпер, калі на калгасным таку кожны дзень гудзе малатарня, і хлеб новага ўраджаю ссыпаецца ў засекі, мы кажам:

— Вялікае дзякуй нашым дзецям. Яны дапамаглі нам вырасціць і сабраць багаты ўраджай.

**Кузьма Ермалаевіч МАКСІМЕНКА,**
старшыня калгаса.

## ЖАЛІ ЖЫТА

Лета выдалася спякотнае. Моцна прыгравала сонца. Але іншы раз на небасхіле збіраліся хмары. Яны закрывалі ўсё неба. Бліскала маланка, грымеў гром. Потым—дождж ліў, як з вядра...

А за вёскаю, у полі, расло жыта. Калі яно паспела, мы—школьніцы—дапамагалі старэйшым жаць. Асабліва добра працавалі Аліна Навуменка, Юля Шавека, Аля Раманава, Таня Парусава, Жэня Лейпунова.



Мы працавалі кожны дзень, з раніцы і да вечара. Іншы раз і стамляліся, але затое шмат карыснага зрабілі для калгаса.

За лета мы загарэлі і падужэлі.

**Зося САВІЦКАЯ,**
вучаніца 3 кл.

## Я ВЫБІРАЛА ЛЁН

А я выбірала ў калгасе лён. Спачатку адставала ад дарослых. Але з кожным днём працавала ўсё лепш і лепш. Калі-ж з усімі зраўнялася, дык рашыла стаць стаханаўкай. На поле пачала прыходзіць раней усіх, скараціла свой абедзенны перапынак.





Вынікі атрымаліся вельмі добрыя. Я адразу пачала выбіраць па 0,16 гектара ільну.

Гэтулькі не выбіралі нават дарослыя.

**Раіса ШЧАРБАКОВА,** 6 кл.

## НАМ ДАРУЧЫЛІ ВАДЗІЦЬ КОНЕЙ

Мы таксама ўсё лета працавалі ў калгасе. На лузе сушылі і зграбалі ў копы сена, потым вазілі на ферму сілос, салому.

Але больш усяго мы працавалі, калі калгас акучваў бульбу. Нам даручылі вадзіць коней. Усе намі былі задаволены, бо да працы мы адносіліся сумленна. Мы нават спаборнічалі між сабою.

Мы слухаліся брыгадзіра і самі прасілі яго пасылаць нас на якую-небудзь працу.

**Толя БЕЛАРУСКІ,**
**Васіль МАКСІМЕНКА,** 3 кл.
**Толя ФІЛІПАЎ,** 2 кл.

## МОЙ СТАТАК

Кожную раніцу, яшчэ да ўсхода сонца, я прыходзіў на калгасны двор. Адчыняў хлеў, выганяў свой статак—18 цялят. Гэтых цялят я ўзяўся пасвіць адразу-ж, як толькі скончыліся заняткі ў школе. Пасвіў я іх старанна. Выганяў на лепшыя паплавы, ніколі не біў іх, а ў спякотныя дні нават адганяў ад іх аваднёў. За лета ўсе цяляты вельмі добра папраўіліся.

Незадоўга перад першым верасням я развітаўся са сваім статкам. Я даў сабе слова: у наступнае лета зноў буду пасвіць цялят.

А цяпер я хаджу ў школу, вучуся. Увесь год вучыцца буду добра. Такое-ж абяцанне дае і мой сябра Грыша Шаўлікаў. Усё лета ён пасвіў калгасных кароў.

**Алесь БЕЛАРУСКІ,**
вучань 3 кл.



# *Сваімі рукамі*

## ШКОЛЬНЫ ПАРК

Да вайны ў нашай вёсцы была вельмі прыгожая школа. Вакол яе раслі высокія ліпы і бярозы. Вясною і ў пачатку восені ў бярэзніку і пад ліпамі можна было паладжваць розныя гульні. Ужо ў сакавіку рэбяты прымацоўвалі да дрэў шпакоўні. Прылятали шпакі, сяліліся ў новых доміках і кожны дзень весела спявалі ў нашым парку.

У вайну, калі немцы захапілі вёску, школа згарэла. Абгарэлі ліпы і бярозы, зусім згарэлі нашы шпакоўні. Мы нідзе не вучыліся. А вучыцца вельмі хацелася. Мы з нецярплівасцю чакалі дня, калі Чырвоная Армія вызваліць нас. І такі дзень надышоў.

Для нас зноў адчынілі школу. Праўда, гэтая школа не была падобна да ранейшай. Яна была не такая светлая і прасторная. Але мы вельмі палюбілі яе і з радасцю пачалі вучыцца.

У гэтым годзе, улетку, мы рашылі падрамантаваць сваю школу, зрабіць яе падобнай на тую, якая была ў нас да вайны. Кожны піонер, кожны школьнік даў абяцанне дапамагчы школе, чым зможа.

Я яшчэ вясной схадзіў у лес, адкапаў там бярозу, перанёс яе і пасадзіў пад школьным акном. Рэбяты, як толькі дазналіся пра гэта, таксама пайшлі ў лес, прынеслі і пасадзілі кожны па маладой бярозцы. Потым мы пачалі садзіць вішаннік, маліннік.

Цяпер ля нашай школы—невялічкі парк. Міне некалькі год, бярозы вырастуць, і школьнікі зноў будуць прымацоўваць да бяроз свае шпакоўні.

**Валодзя ВАРВАШЭНЯ, 4 кл.,**

Быстрыцкая школа, Капыльскага раёна.

## ЗРАБІЛІ АГАРОЖУ

Летам мы дапамагалі рамантаваць сваю школу. Кожны вучань прынёс з свайго двара жэрдку або кол. Зрабілі вакол школы агарожу.

Калі пачалі рамантаваць страху,—выявілася, што ў нас няма цвікоў. Выручыў вучань другога класа Ягор Варвашэня. Ён адшукаў даўгі дрот, насек яго на кавалкі. У кожным кавалку адзін канец зрабіў вострым. Атрымаліся самаробныя цвікі.

Кожны вучань прынёс куль саломы. Гэтая салома таксама пайшла на рамонт страхі.

Ля школы мы зрабілі алею, пасыпалі яе жоўтым пяском.

Цяпер наша школа мае вельмі прыгожы выгляд.

**Сцяпан ЛЕБЕДЗЬ, 4 кл.**

## НАМ БУДЗЕ ЦЁПЛА

Я таксама разам з усімі рамантавала сваю школу. Але гэта яшчэ не ўсё, што зрабілі нашы вучні летам.

У нас за вёскаю ёсць балота. Яно цягнецца на некалькі кілометраў і вельмі багата торфам. Тут, у штабелях, быў і наш, школьны, торф. Але паліць яго ў печах нельга было, бо ён быў сыры. Мы, школьнікі, рашылі яго прасушыць. Арганізавалі некалькі суботнікаў і пераклалі торф так, каб ён падсыхаў на сонцы з другога боку.

Торф добра высах.

Зімою ў нашай школе будзе цёпла.

**Галя ХРАМЦЭВІЧ.**



Восень!

Гравюра мастака А. Тычыны.

# У ПІОНЕРСКІМ ЛАГЕРЫ



*Тысячы рэбят адпачывалі ўлетку ў піонерскіх лагерах. Весела і карысна правялі яны свой адпачынак. Прышла восень, і ўсе рэбяты з новымі сіламі дружна ўзяліся за вучобу.*

**На здымках:** 1) Пад'ём лагернага сцяга, 2) На экскурсіі. (Піонерскі лагер «Прылукі»).



Фота В. Лупейкі.



# Агароднікі

Н. НОСАЎ (*Прыгоды юных агароднікаў*) *Мал. Г. Валька*

Праз некалькі дзён пасля таго, як мы прыехалі ў піонерлагер, наш важаты Віця сказаў, што калгас вылучыў нам пад агарод цэлы гектар зямлі. Мы сабраліся і пачалі меркаваць, як будзем урабляць зямлю і што садзіць. Парашылі падзяліць зямлю на ўчасткі, і каб на кожным участку брыгада з двух чалавек працавала. Адразу будзе відаць, хто як працуе: хто наперадзе, а хто адстае. Тым, хто адстае, парашылі дапамагаць, каб уся зямля была добра ўраблена і дала большы ўраджай.

Мы з Мішкам папрасілі запісаць нас у адну брыгаду. Мы яшчэ ў горадзе ўмовіліся, што будзем працаваць разам і рыбу лавіць разам. Усё ў нас было агульнае: і рыдлёўкі і вудачкі.

— Рэбяты,—сказаў Вадзік Зайцаў,— давайце зробім пераходны чырвоны сцяг. Хто першы ўскапае ўчастак, у таго на ўчастку паставім сцяг.

— Правільна! — закрычалі рэбяты. — А потым будзем за гэты сцяг змагацца. Хто лепш зробіць пасадку, да таго пяройдзе і сцяг, а потым за праполку будзем перадаваць сцяг. А ў каго будзе самы большы ўраджай, таму паднясем у падарунак увосень гэты сцяг, і няхай ён вязе яго з сабой у горад.

Мы з Мішкам парашылі змагацца за сцяг.

— Як возьмем яго з самага пачатку, дык да канца не выпусцім і дамоў з сабою павязем,—казаў Мішка.

Наш агарод быў недалёка ад ракі. Мы змералі зямлю рулеткай, вызначылі ўчасткі і ўбілі калочкі з нумарамі. Нам з Мішкам выпаў дванаццаты ўчастак. Мішка тут-жа пачаў крычаць, што нам самы дрэнны ўчастак далі.

— Ды чаго ён дрэнны? — пытаецца Віця.

— Дзірка вунь тут у зямлі.

— Ну, што гэта за дзірка,—засмяяўся Віця.—Конь капытом прабіў.

— І пень вось тырчыць,—кажа Мішка.

— І на другіх участках ёсць пні, паглядзі.

Але Мішка ўжо нікуды глядзець не хацеў.

— Яго-ж з зямлі выдзіраць трэба!— крычаў.

— Што-ж, выкарчуеце. Самі не дасцё рады, дык рэбяты дапамогуць.

— Ды ўжо калі возьмемся — дадзім рады,—пакрыўдзіўся Мішка.—Яшчэ і рэбятам дапаможам, на буксір возьмем.

— Вось і добра,—кажа Віця.

Усе рэбяты пачалі капаць зямлю. І мы з Мішкам пачалі капаць.

Мішка троху папрацуе ды і бяжыць глядзець, колькі другія рэбяты накапалі. Я кажу яму:

— Ты не бегай, працуй, а то мы менш за ўсіх накапаем.

— Нічога,—кажа,—я яшчэ націсну.

І пачаў націскаць. Націсне, націсне ды зноў збяжыць куды-небудзь.

У гэты дзень мы мала працавалі. Хутка важаты Віця паклікаў усіх абедаць. Пасля абеда мы з Мішкам схапілі рыдлёўкі і зноў хацелі на агарод бегчы, але Віця нам не дазволіў. Ён сказаў:

— Працаваць будзем толькі да абеда. Пасля абеда адпачываць, а то ў нас знойдуцца такія рэбяты, якія ў першы-ж дзень залішне напрацуюцца, а потым і не змогуць працаваць.

На другі дзень мы раней за ўсіх прыбеглі на агарод і пачалі капаць. Потым Мішка выпрасіў у Віці рулетку і ўзяўся зямлю мераць: колькі ў нас на ўчастку ўскапана ды колькі асталося. Пакапае крыху ды зноў мерае. І ўсё яму здаецца мала. Я кажу:

— Канешне, будзе мала, калі я адзін капаю, а ты толькі мераеш.

Ён кінуў рулетку і стаў капаць. Толькі нядоўга капаў. Корань яму ў зямлі трапіўся, дык ён гэты корань пачаў з зямлі выдзіраць. Драў яго, драў, увесь участак развярнуў. Нават на суседні ўчастак залез і там выдзірае гэты корань.

— Ды кінь ты яго,—кажу.—Чаго ты да яго прычапіўся?

— Я,—кажа,—думаў, што ён кароткі, а ён вунь які доўгі, як удаў.

— Ну і перастань з ім тузацца.

— Ды павінен-жа ён дзе-небудзь канчыцца.

— А табе хіба не ўсёроўна?

— Не,—кажа,—я такі чалавек: калі за што-небудзь узяўся, абавязкова да канца зраблю.

І зноў ухапіўся рукамі за корань. Тады я ўзлаваўся, падышоў і адсек гэты корань рыдлёўкай. А Мішка корань рулеткай змераў.

— Ого!—кажа.—Шэсць з палавінаю метраў. А калі-б ты не адсек, дык ён, можа, метраў дваццаць быў-бы.

Я кажу:

— Калі-б я ведаў, што ты так будзеш працаваць, дык з табой і не звязваўся-б.

— Можаш асобна. Я-ж цябе не прымушаю.

— Як-жа цяпер асобна, калі ў нас гэтулькі ўскапана. Вось не атрымаем праз цябе сцяга.

— Чаму не атрымаем? Ты паглядзі, колькі ў Янкі Лыжкіна і Сені Баброва. Яшчэ менш як у нас.

Ён пайшоў на ўчастак Янкі Лыжкіна і пачаў смяяцца:

— Эх вы! Прыдзецца вас на буксір браць.

А яны яго праганяюць:

— Глядзі, каб цябе не ўзялі.

Я кажу:

— Дзівак ты. З другіх смяешся, а сам колькі зрабіў? І чаго я толькі з табою звязаўся.

— Нічога,—кажа, — я адну штуку прыдумаў. Заўтра сцяг будзе на нашым участку.

— З глузду,—кажу,—з'ехаў. Тут на два дні работы, а з табой і на чатыры хопіць.

—Вось убачыш, я потым табе раскажу.

— Ты лепш працуй, усёроўна зямля сама не ўскапаецца.

Ён узяў рыдлёўку, але тут Віця сказаў, каб усе ішлі абедаць. Ну, Мішка рыдлёўку на плячо і паімчаўся спераду ўсіх.

Пасля абеда Віця пачаў чырвоны сцяг рабіць. А мы ўсе яму памагалі: хто палку стругаў, хто матэрыю падшываў, хто разводзіў фарбы. Сцяг атрымаўся прыгожы. Палку пафарбавалі залатою фарбаю, а на сцягу Віця напісаў срэбнымі літарамі: «Лепшаму агародніку». Мішка сказаў:

— Давайце яшчэ пудзіла зробім, каб вароны агарод не дзяўблі.

Гэта выдумка ўсім спадабалася. Узялі мы жэрдку і да яе крыж-на-крыж палку прывязалі, дасталі стары мяшок і пашылі з яго кафтан. Потым нацягнулі гэты кафтан на жэрдку, а зверху гліняны гар-

шчок надзелі. На гаршчку Мішка намаляваў вугалем рот, нос, вочы. Страшная пачвара атрымалася. Паставілі гэтае пудзіла сярод двара. Усе глядзелі на яго і смяяліся.

Мішка адвёў мяне ўбок і кажа:

— Вось што я прыдумаў: давай, калі ўсе лягуць спаць, уцячэм на агарод і ўскапаем свой участак. Пакінем на раніцу кавалачак маленькі, заўтра хутка скончым і атрымаем сцяг.

Я кажу:

— Калі-б ты працаваў, а то ўсё пустою справаю займаешся.

— Я буду добра працаваць, вось убачыш.

— Ну добра, толькі калі ты зноў возьмешся за старое, кіну ўсё і пайду.

Увечары ўсе ляглі спаць. І мы з Мішкам ляглі толькі для выгляду. Я ўжо нават пачаў драмаць. Раптам мяне Мішка штурхае ў бок.

— Уставай. А то не бачыць нам сцяга, як сваіх вушэй



*Раптам мяне Мішка штурхае ў бок.*

Устаў я. Мы вышлі так, каб ніхто нас не бачыў. Узялі рыдлёўкі і пайшлі на агарод. Месяц свяціў, і ўсё было відаць.

Прышлі на агарод.

— Вось наш участак,—кажа Мішка.— Бачыш, і пень тырчыць.

Сталі мы капаць. На гэты раз Мішка добра працаваў, і мы шмат ускапалі. Дайшлі да пня і парашылі яго выкарчаваць. Абкапалі з усіх бакоў і пачалі з зямлі цягнуць. Цягнулі-цягнулі, а ён не лезе. Прышлося адсякаць карэнні рыдлёўкай. Змарыліся, як коні. Усё-такі выцягнулі. Зямлю зараўнавалі, а пень Мішка на суседні ўчастак кінуў.

Я кажу:

— Гэта ты нядобра зрабіў.

— А куды яго дзяваць?

— Нельга-ж на чужы ўчастак.

— Ну, давай яго ў раку кінем.

Узялі мы пень і пацягнулі да ракі. А ён цяжкі, ледзь дацягнулі і—шабултых яго ў ваду. Ён пайшоў па рацэ, нібы спрут ці васміног які. Мы паглядзелі яму ўслед і пайшлі дамоў. Больш у гэты раз ужо не маглі працаваць—змарыліся вельмі. Ды нам і так зусім невялічкі кавалачак асталося ўскапаць.

Раніцой прачнуліся мы пазней за ўсіх. Усё цела ў нас баліць: рукі баляць, спіна баліць.

— Што гэта?—кажа Мішка.

— Ад работы,—кажу,—вельмі шмат працавалі.

Усталі мы, размяліся крыху. За снеданнем Мішка пачаў хваліцца, што мы чырвоны сцяг будзем мець.

Пасля снедання ўсе паімчаліся на агарод. І сцяг з сабою ўзялі і пудзіла пацягнулі. Мы з Мішкам пайшлі не спяшаючыся. Куды нам спяшацца.

Прышлі на агарод. Усе, як краты капаюцца, а мы ходзім ды пасмейваемся.

— Не бачыць вам сцяга,—кажам, — як сваіх вушэй.

Рэбяты адказваюць:

— А гэта вось чый участак? Зусім мала ўскапана. І гаспадароў няма, мусіць, дрыхнуць яшчэ.

Я паглядзеў:

— Нумар дванаццаты. Ды гэта-ж наш участак.

— Не можа быць,—кажа Мішка.— Мы больш ускапалі.

— Мне, — кажу, — таксама здавалася, што болей.

— Можа знарок хто-небудзь нумаркі перамяніў?

— Не, усё правільна. Вось адзінаццаты, а там трынаццаты.

Глядзім—і пень тырчыць. Мы не ведаем, што і падумаць.

— Паслухай,—кажу я.—Калі гэта наш участак, дык адкуль-жа пень узяўся? Мы-ж яго ўжо выкарчавалі.

— Праўда,—кажа Мішка.—Не мог-жа за ноч новы пень вырасці.

Раптам, чуем, Янка Лыжкін на сваім участку крычыць:

— Рэбяты, глядзіце якое дзіва! У нас тут учора пень быў, а сёння няма. Куды ён падзеўся?




*— Калі гэта наш участак, дык адкуль-жа пень узяўся?*

Усе пабеглі на гэта дзіва глядзець. Падышлі і мы з Мішкам.

«Што такое,—думаем,—учора ў іх і да палавіны не было ўскапана, а сёння зусім невялікі кавалачак астаўся».

— Мішка,—кажу я, — ды гэта-ж мы ўночы памыліліся: на іх участку працавалі і пень ім выкарчавалі.

— Ды што ты?

— Праўда.

— Ах мы аслы, — кажа Мішка.—Ды што-ж цяпер рабіць? Па правілу, яны павінны нам свой участак аддаць, а сабе хай бяруць наш. Што мы, дарма ў іх працавалі?

— Маўчы, — кажу,—дурань. Хочаш, каб з нас увесь лагер смяяўся?

— Што-ж рабіць?

— Капаць,—кажу,—вось што.

Схапілі мы рыдлёўкі. Ды спрыт не той: рукі баляць, ногі баляць, спіна не разгінаецца. На чужым участку напрацаваліся, а на сваім працаваць не можам.

Хутка Янка Лыжкін і Сенька Баброў на сваім участку работу скончылі. Віця павіншаваў іх і аддаў ім чырвоны сцяг. Яны яго паставілі пасярод участка. Усе сабраліся сюды і ў ладкі запляскалі.

Мішка кажа:

— Гэта няправільна.

— Чаму няправільна?—пытаецца Віця.

— Ды таму і няправільна, што за іх нехта пень выкарчаваў, яны самі сказалі.

— А мы вінаваты?—кажа Янка.—Можа яго хто-небудзь сабе на дровы выкарчаваў. Хіба-ж мы забараняць будзем?

— А можа яго хто-небудзь памылкова замест свайго выкарчаваў,—кажа Мішка.

— Тады-б ён тут быў, а яго нідзе няма.

— А можа яны яго ў раку кінулі, — кажа Мішка.

— Ну, што ты прычапіўся: можа ды можа.

— Можа вам і ўчастак хто-небудзь уночы ўскапаў,—не сунімаўся Мішка.

Я яго штурхаю, каб ён не прагаварыўся. Янка кажа:

— Усё можа быць, мы зямлю не мералі.

Пайшлі мы на свой участак і пачалі капаць. А Янка і Сенька пасталі і хіхікаюць.

— Вось працуюць!—кажа Сенька.—Усёроўна, як у сне мачалку жуюць.

— Трэба іх на буксір узяць,—кажа Янка.—У іх-жа менш чым ва ўсіх ускапана.

Ну, і ўзялі нас на буксір. Памаглі нам капаць і пень выкарчаваць. Усёроўна мы пазней за ўсіх скончылі. Рэбяты кажуць:

— Давайце на іх участку, як адстаючым, паставім пудзіла.

Усе згадзіліся і паставілі пудзіла на нашым участку. Мы з Мішкам пакрыўдзіліся. А рэбяты кажуць:

— Дабівайцеся, каб ваш участак быў лепшым. Калі садзіць і палоць будзем, тады знімем з вашага агарода пудзіла.

Юрка Казлоў унёс прапанову:

— Давайце пудзіла ставіць адстаючым.



*Усе згадзіліся і паставілі пудзіла на нашым участку.*

— Давайце,—закрычалі ўсе.

— А ўвосень падаруем таму, у каго будзе самы дрэнны ўраджай, — кажа Сенька Баброў.

Мы з Мішкам парашылі старацца з усяе сілы, каб збыць гэтае пудзіла. Толькі ў нас так нічога і не вышла. Усё лета прастаяла яно на нашым участку.

На пасадцы Мішка ўсё пераблытаў і пасадзіў буракі там, дзе ўжо была морква пасаджана. А ў час праполкі замест пустазелля пятрушку павырываў. Прышлося на гэтым месцы ў спешным парадку радыску пасадзіць. Колькі разоў я хацеў ад яго аддзяліцца, ды ніяк не мог. «Хто-ж,—думаю,—у бядзе таварыша пакідае». Так мучыўся з ім да канца.

Затое ўвосень чырвоны сцяг адразу нам з Мішкам паднеслі. У нас самы большы ўраджай агуркоў і памідораў аказаўся.

Рэбяты пачалі спрачацца.

— Гэта няправільна!—казалі яны.— Увесь час былі адстаючыя, і раптам— самы большы ўраджай.

Але Віця сказаў:

— Нічога, рэбяты, усё правільна. Хоць яны і адставалі, але зямлю добра ўраблялі, стараліся і дабіваліся, каб добры ўраджай быў.

Янка Лыжкін сказаў:

— У іх зямля была добрая. А вось нам з Сенькам паганая зямля папалася. І ўраджай маленькі, хоць мы і стараліся. За што-ж нам пудзіла падаравалі? Хай яны тады і пудзіла бяруць сабе, калі яно ў іх усё лета стаяла.

— Нічога, — кажа Мішка,—мы возьмем і пудзіла. Давайце яго сюды.

Усе засмяяліся, а Мішка сказаў:

— Калі-б не гэта пудзіла, дык мы і ўраджаю добрага не атрымалі-б.

— Гэта чаму-ж?—спыталі ўсе.

— Бо на нашым участку яно варон пужала, а на другіх вароны яго не баяліся, вось і ўраджай атрымаўся меншы. І потым, праз гэта пудзіла мы не забываліся, што нам трэба старацца і працаваць лепш.

Я кажу Мішку:

— Чаму ты ўзяў гэта пудзіла? Навошта яно нам?

— Ну, давай яго ў раку кінем,—кажа Мішка.

Узялі мы пудзіла і кінулі ў раку. Яно паплыло, распасцёршы рукі. Мы паглядзелі яму ўслед і пачалі ў яго камені кідаць. А потым пайшлі ў лагер.

У той-жа дзень Лёшка Курачкін зняў нас фотаапаратам разам са сцягам. Так што калі каму-небудзь захочацца мець нашу картачку мы можам прыслаць.




Ніна ТАРАС

*Мал. С. Раманава*

Праз шырокую дарогу,
Праз зялёную дуброву,
Праз жытнёвыя палі
Па арэхі мы прышлі.

Эх, арэхі, вы арэхі,
Колькі радасці і смеху:
Той арэшыну сагне,
Той вяршыну скалыхне.

Гне арэшыну й Марыся,—
«Ты, Марыся, адступіся,
Не дастанеш, гэта знай,
Мне арэшыну аддай».

А яна не хоча слухаць,
Не вядзе ў той бок і вухам—
Цягне ўніз, а дрэўца—трась!—
І ляціць Марыся ў гразь.

Мы арэхі абрывалі,
Мы кішэні набівалі.—
«Ну, Марыся, не бяда,
Я табе палову дам!»

А вавёрка на кусточку
Паглядае косым вочкам.
І чаму, скажыце мне,
Так злуецца на мяне?




(Працяг*)

*Янка МАУР* — *Мал. А. Волкава*

## ВЁСКА ГНІЛУШКІ

Наша вёска была не такая ўжо малая—двароў больш за сотню было ў ёй. Ды яшчэ двары гэтыя шпарка размнажаліся, як грыбы пасля дажджу. Дзе быў адзін дом, адна гаспадарка, глядзіш—на тым двары ўжо дзве, тры хаты: адна, старая, стаіць звычайна, тварам на вуліцу, другая глядзіць зусім у другі бок, а трэцяя стаіць неяк рогам, наўскасяк і ўсім перашкаджае.

Пасля пажару ўсе двары зрабіліся такімі гнёздамі. Гаспадарчых будынкаў, калі не лічыць паветкі замест сенцаў, звычайна не было. Ды яны былі і непатрэбныя, бо ніякай гаспадаркі не было. Адна карова прыпадала на дзве-тры хаты, а конь дык і на ўсе пяць. А ўраджай мог змясціцца і пад страхой і на гары хаты.

Гаспадаркі пладзіліся таму, што сем'і дзяліліся. Калі ў сям'і, скажам, тры сыны, то як толькі яны вырастуць, на двары зараз-жа вырастаюць дзве-тры самастойныя хаты. Разам з дваром, вядома, дзяліліся і палеткі. Нездарма ўчасткі на полі называліся «шнурамі». Калі мы, хлапчукі, не маглі пераскочыць праз такі шнур, то лічылі, што ён належыць багатаму гаспадару. Межы паміж гэтых шнуроў займалі, мусіць, трэцюю частку поля. Завярнуцца з канём на такім участку зусім нельга было. Часам дзялілі такі ўчастак упоперак, але гэта бывала вельмі рэдка, бо глеба на канцах звычайна была розная. Калі не было жывёлы і саломы, то не было і ўгнаення.

Дайшло да таго, што для некаторых гаспадароў зямля стала абузай. Ён-бы ахвотна прадаў яе, ды суседзі яго грошай не маюць, або самі хочуць прадаць сваю зямлю. А хто другі можа і купіў-бы, ды што яму рабіць з гэтай кішкой, калі яна ляжыць воддаль ад яго шнура? І былі выпадкі, калі людзі проста кідалі сваю зямлю і ўцякалі, куды вочы глядзяць.

Памятаю я адзін урачысты дзень, калі выпраўлялі дзесяць фурманак проста ў Сібір. Зайздросна было глядзець, як паехалі яны са званочкамі, з музыкай, нібы вяселле якое. Праз год некалькі сем'яў вярнулася назад, але ціхенька, без званочкаў і без музыкі.

Аднак жыць трэба было. І тады людзі ўзяліся высякаць з каменя крыжы і помнікі на могілкі. Раней быў на вёсцы адзін дзед Карп, які здаўна займаўся гэтай справай і перадаў яе сваім сынам, а цяпер—на кожным двары ляжаў вялізны камень, і гаспадар цюкаў яго цэлыя месяцы. За добры крыж можна было атрымаць вялікія грошы—15-20 рублёў.

Але як прывезці вялізны, шматпудовы валун, калі каня няма ды і многа людзей трэба на гэтую справу? А калі бліжэйшыя камені падабралі, то трэба было шукаць усё далей і далей. А зрабіўшы крыж, трэба было на чужым кані везці яго за многа дзесяткаў вёрст і чакаць пакупца, якому акурат патрэбен крыж. Не дачакаўшыся, трэба было часова пакідаць каму-небудзь. Каб варочаць гэткі цяжар, трэба было кожны раз збіраць многа людзей. І былі яшчэ выпадкі, калі крыж разбіваўся...

Наогул усю такую аперацыю можна было прарабіць не болей аднаго разу ў год. І калі яна шчасліва канчалася, то чалавек ад радасці прапіваў палову грошай, а то і ўсе. Тады адбываліся бойкі, і я ніяк не мог зразумець, якім чынам чалавек заставаўся жывы пасля таго, як яму са звонам грукалі калом па галаве...

Толькі чатыры гаспадаркі ў вёсцы не дзяліліся і былі заўсёды багатыя. Каля хат у іх былі вялікія сады, гароды і нават так сабе раслі вялізныя дрэвы—ліпы, дубы, клёны. Пазней гэтыя дрэвы ўратавалі сваіх гаспадароў ад пажару, які знішчыў усе астатнія двары. У гэтых чатырох сем'ях быў такі парадак, што лішнія дзеці недзе вучыліся, набывалі якую-небудзь спецыяльнасць і жылі далёка, а гаспадаром заставаўся

---

*) Пачатак гл. у №№ 3, 4, 5-6, 7.

хто-небудзь адзін. Гаспадары гэтыя не мелі нічога агульнага з нашым народам, затое нашы хлопцы мелі шмат агульнага з іхнімі садамі і гародамі. Але на жаль, ці на шчасце, мне давялося толькі адзін раз прымаць удзел у такім паходзе, ды і то няўдала. Не, лепей не ўспамінаць аб такім прыкрым здарэнні... Адзначу толькі, што для нас гэтыя чатыры гаспадаркі заўсёды былі чужаземнай тэрыторыяй, і жыхары былі для нас чужаземцамі—ніколі ніводзін хлопчык ад іх не быў у нашай кампаніі.

Я ўжо казаў, што ў нашай вёсцы не было ні школы (яна была за 15 кіламетраў) і ніякага начальства (яно было ў валасці за 10 кіламетраў). Мы жылі і выхоўваліся самапасам..

Пісьменных у вёсцы было некалькі чалавек, ды і то не сталых. Пры мне чытаць і пісаць маглі толькі двое, а рэшта маглі толькі чытаць. Некаторыя з іх раней умелі і пісаць, але забыліся. А яшчэ больш было такіх, якія забыліся не толькі пісаць, але і чытаць.

Уся гэтая культура і зусім знікла-б, каб яе не падтрымлівалі салдаты, якія вярталіся са службы ў арміі. Праўда, не ўсе яны вярталіся пісьменнымі, яшчэ менш было такіх, што ўмелі пісаць, але сякая-такая пісьменнасць да нас даходзіла толькі праз іх. Праз некаторы час яны самі рабіліся непісьменнымі, а на змену ім прыходзілі новыя салдаты.

Так вёска Гнілушкі і жыла сваім асобным жыццём, адрэзаная ад усяго свету, калі не лічыць тых спраў, якія кожны меў у валасці, ды рэдкіх выездаў у мястэчка на кірмаш. У нас была свая культура, свая медыцына. Гэтая медыцына часам была вельмі суровая, і я аднойчы праз яе перажыў многа страху.

Быў у мяне таварыш, Пятрусь, бледны, гнілы хлопчык з залатухай на галаве і на твары. Жыў ён з бацькам на водшыбе ў былой лазні. Жанчыны ў іхняй хаце не было. Бацьку, Сымона, чамусьці называлі Жывадзёрам, хоць яго спецыяльнасцю было здымаць скуры не з жывых, а з мёртвых жывёлін. Людзі на яго глядзелі пагардліва, тым больш, што выгляд яго быў не надта прывабны: тоўсты, нібы падзьмуты, сіні.

Аднаго разу я зайшоў да іх акурат у тую хвіліну, калі Сымон лячыў свайго сына ад залатухі. Яны трымалі лыжку малака і клалі туды тое, што знаходзілі ў сваіх кашулях...

— Цяпер ужо ты вылечышся!—задаволена казаў бацька, пырскаючы слінай.—Як рукой здыме.

Потым звярнуўся да мяне:

— Табе таксама трэба лячыцца (у мяне сапраўды была залатуха). Гэта, брат, самае лепшае лякарства.

Я глядзеў на гэтую падрыхтоўку, яшчэ добра не разумеючы, у чым справа. Калі «лякарства» было гатова, Пятрусь з пакорным і абыякавым выглядам праглынуў яго... У мяне мурашкі забегалі па спіне.

— А цяпер давай ужо за адным разам і



*Вёска Гнілушкі.*

цябе вылечым,—пасунуўся Сымон да мяне.— Падзякуеш і ты і твая матка.

— Не, не, не хачу!—адхіснуўся я з жахам.

— Дурны!—спакойна сказаў Сымон.—Але ўсёроўна я параю тваёй матцы, і яна цябе прымусіць.

І сапраўды параіў. Маці зусім не здзівілася і не пярэчыла, нібы ведала і прызнавала гэты спосаб. Толькі сказала, што трэба пачакаць, якія будуць вынікі ў Петруся.

Вось тут і пачаліся мае пакуты. Кожны дзень я з жахам думаў, ці не вылечыўся Пятрусь? Я сачыў за яго болькамі з большай увагай, як ён сам. Малейшае палепшанне было для мяне вялікім горам. Ішлі дні за днямі—і, на маё вялікае шчасце, Пятрусь не вылечыўся!..



*—Не, не, не хачу!—адхіснуўся я з жахам.*

## МАЯ РАБОТА

Зусім не так, як мы, глядзелі на свет дарослыя, сталыя людзі! Ідуць яны, скажам, міма сажалкі, міма дуба ці каля плоту якога—і нават не зірнуць на іх. А калі і зірнуць, то ўбачаць толькі ваду, дрэва і больш нічога. А таго, што сажалка—гэта цэлы свет з цікавейшым жыццём, яны не бачаць. Што жалуды на дубе даюць вялікае шчасце чалавеку, калі ён глядзіць на іх,—таго яны не ведаюць. Што звычайны плот, асабліва плящень, адным сваім выглядам можа даваць асалоду для душы,—гэтага дарослыя і зусім уцяміць не могуць. А колькі на свеце такіх рэчаў! І кожная жыве, дыхае, зіхаціць і ўплывае на цябе, кожная захапляе цябе цалкам, так што пра другое ў такія мінуты ты і думаць не можаш. А дарослыя дзядзі і цёці жывуць сабе на свеце, а свету не бачаць і не адчуваюць. Тым горш для іх. Затое я ўсё бачу і адчуваю.

Вось, скажам, паўзе жаба. Звычайная агідная жаба, якіх усюды ўбачыш. А людзі на іх і глядзець не хочуць. Я, вядома, не мог прайсці міма, спыніўся, паглядзеў, а потым узяў і затрымаў яе дубцом. Яна завярнулася ў другі бок— я і тут яе не пусціў. Тады яна кінулася ў трэці бок — і там ходу няма! Так я працаваў доўга-доўга, калі яна спынялася — я адпачываў, а потым зноў пачыналася спачатку. Хто з нас дваіх быў разумнейшы, не бяруся сказаць, але цярплівейшы быў безумоўна я. Нарэшце, надышоў час, калі і жаба прышла ў роспач: як крыкне сваім хрыпатым голасам ды як скокне, не зважаючы на дубец, проста на мяне!..

Тут ужо я шчыра пашкадаваў, што давёў жабу да такога стану; але позна было шкадаваць, трэба было ратаваць сваё жыццё. Ногі неслі мяне, як крыллі, а ззаду гналася раз'юшаная жаба. Я ўспомніў расказы хлапцоў, як калісьці таксама гналася жаба за нейкім чалавекам; той ледзь паспеў ускочыць у сенцы і зачыніць дзверы, а жаба ў гэты момант як пляснецца ў дзверы ды так глыбока ўвайшла ў дрэва, што ледзь яе адтуль выкалупалі... Я таксама паспеў ускочыць у сенцы, але жаба не пляснула. Мусіць, я ляцеў хутчэй за таго чалавека. А можа яна зусім і не гналася?..

Цяпер я ўжо не шкадую аб гэтым здарэнні: ці многа знойдзецца на свеце людзей, якім пашанцавала бачыць раз'юшаную жабу?

Я цяпер бачу, што ў маёй памяці засталося найбольш такіх здарэнняў і ўражанняў, якія перажываў я адзін, без таварышоў. Тлумачыцца яно тым, што толькі я адзін быў беспрацоўным. Ім і ў гаспадарцы трэба было памагчы, і ў хаце, і на полі, і з дзіцем пабыць, а ў мяне нічога такога не было. Сама маці хадзіла працаваць па людзях, але мяне не прымушала, нават і тады, калі мне было і восем і дзевяць год.

Вясковая грамадскасць глядзела на гэта скоса:

— І што сабе думае гэтая Наталля? Ні кала, ні двара, ні мужа не мае, а сына гадуе абібокам. У людзей дзеці з шасці гадоў працу маюць, а яе сын сабак ганяе.

Не ведаю, ці то пад уплывам грамадскасці, ці надта ўжо гора прыціснула, але аднаго разу маці парашыла аддаць мяне ў пастухі. Найшлі мы за восем кіламетраў у нейкі фальварак. Уласна кажучы, гэта быў звычайны кулацкі хутар, але гаспадар быў паляк-шляхціц, значыцца, хутар павінен быў называцца фальваркам, а гаспадары яго — панамі.

На ганак вышла пані, звычайная баба, толькі таўсцейшая ды крыху бялейшая. Маці пацалавала ёй руку, а потым загадала мне пацалаваць. Стала прасіцца, каб узялі мяне гусі пасвіць. Паглядзела на мяне пані і кажа:

— Надта малы і слабы...

Маці пачала даводзіць, што птушак пасвіць я здолею.

— Такая праца не аплоціць яго харчавання, — сказала пані.

Урэшце ўсё-ж такі згадзілася прыняць ды яшчэ вызначыла плату: цэлы рубель за ўсё лета!

Развіталіся мы з мамкай, абодвы паплакалі,— гэта-ж была наша першая разлука. Пасялілі мяне ў каморцы, разам з работніцай. Пакармілі надзвычай добра: і хлеба і малака колькі хочаш! Праўда, малако было перагнанае, і яго давалі таксама і парасятам, але што мне з таго?

Досвіткам паднялі мяне разам з работніцай—і пачалася мая служба: і кароў ганяць, і свінні пасвіць, і гаспадару памагаць, і гаспадыні, і работніцы, а гусі пасвіліся самі.

І ўбачыў я тады, што свет зусім не такі цікавы і прывабны, як мне здавалася раней. Калі тут трапляўся дуб і жалуды, то яны ніякага шчасця чалавеку не давалі. І ў сажалцы ніякага жыцця не было. А пляцень, дык той зусім быў брыдкі...



*Нарэшце, надышоў час, калі і жаба прышла ў роспач.*

Маці прышла да мяне дні праз тры. Убачыла, залілася слязьмі, а калі даведалася, што да гусей я маю вельмі малое дачыненне, то забрала мяне зусім.

Зноў вярнулася наша шчасце, зноў ажыла прырода, зноў зрабіўся любым свет...

А свет быў пабудаваны такім чынам: у цэнтры стаяла вёска Гнілушкі, навокал яе—палеткі, за палеткамі—лясы, а за лясамі—Адэса, Пецербург, Амерыка і яшчэ сёе-тое.

Хоць і добра ведаў я навакольныя лясы і пералескі, але толькі з краю. У глыбіню хадзіў я толькі з мамкай, і гэтыя падарожжы пакінулі ў мяне вельмі глыбокі след.

... Высокія стройныя сосны стаяць, як свечкі. Недзе ўверсе і неба, і вецер, і дзяцел, а ўнізе—цішыня і спакой. Крыкнуць баішся, не таму што страшна, а таму, што не адважваешся парушыць урачыстасць. Толькі адзін нейкі дзівачны птах не звяртае ўвагі на ўрачыстасць, а свішча і дражніцца, як чалавек. Я яму адгукаюся, ён мне адказвае. А які ён—не ведаю і да гэтага часу, хоць дражнюся з ім больш як пяцьдзесят гадоў.

У розных месцах наўскасяк утыркаюцца ў зямлю залатыя праменні. Вось забялелася сярод іх хустка—там мая мамка. Праз хвіліну яна ўжо ў другім баку, а я ўсё поркаюся на адным месцы. Мой удзел у працы зусім добраахвотны і бескарысны. Калі-ні-калі я прыношу маме жменьку чарніц, а больш адпраўляю ў свой чорны рот.

Час ад часу чую ціхае—«ау!» І адразу ўсе галасы ў лесе сціхаюць, каб даць дарогу голасу мамы, бо ён самы мілагучны ад усіх. Я адгукваюся такім голасам, што, мусіць, і ён маме здаецца самым мілагучным. І абое мы шчаслівыя. Нікога няма, мы самі тут гаспадары—і больш нічога нам не трэба.

Раптам у лесе пачуліся жахлівыя жаночыя крыкі. Я ўзлез на пень, гляджу—далёка між дрэў мільгаюць яшчэ белыя хусткі. Сярод іх—мужчына з барадой і са стрэльбай. Ён ганяецца за жанчынамі, садраў з адной хустку, тая заплакала...

Справа ясная: лясны разбойнік напаў на людзей.

Падбягае, запыхаўшыся, мама, хапае мяне за руку і кажа:

— Ціха!.. Бяжым!..

І, схіліўшыся ды хаваючыся па-за дрэвамі і



*Мы бяжым датуль, пакуль стала зусім ціха.*

кустамі, мы бяжым датуль, пакуль стала зусім ціха.

— А ён нас не знойдзе?—пытаюся я.

— Цяпер ужо не,—упэўнена адказвае мама.

Чаму яна так упэўнена?

— А можа тут другі разбойнік ёсць?—кажу я.

— Гэта не разбойнік, а ляснік,—тлумачыць мама.—Ён ловіць безбілетных. Каб збіраць ягады і грыбы, трэба купляць білет.

Вось табе і гаспадары лесу!

...Які вялікі лес і які living разнастайны! Кожны новы куток—новы свет. І ўсюды свая пекната. Калі выйдзеш на прасеку, то трапляеш у сонечнае царства. Там сонца зусім не такое, як дома, там ніколі не бывае ценю і заўсёды многа маліны; там вельмі хочацца смяяцца. А ў ельніку, наадварот, заўсёды цёмна і трохі жудасна. Там пад яловымі лапамі хаваюцца ваўкі, мядзведзі і ўсякая нечысць. Там ужо смяяцца зусім не хочацца. На ўзгорках заўсёды пясочак і сосны з зялёнай карой. Там можна ўбачыць яшчарак, і тады на сэрцы робіцца радасна.

Адно толькі прыкра: мама не хацела са мной ні смяяцца, ні радавацца. Яна толькі крышачку ўсміхалася, гледзячы на мяне. А то зноў (і каторы раз!) пачынала гутарку пра маю будучыню.

— Калі ты будзеш настаўнікам ці пісарам, то мы будзем не толькі збіраць, але і купляць чарніцы ды есці з малаком.

— Ну?—кажу я недаверліва.—Адкуль набрацца столькі малака?

— Ты будзеш мець шмат грошай.

— А калі буду я вучыцца?

— Не ведаю,—уздыхнула мама.

— А дзе буду я вучыцца?

— Пакуль яшчэ не ведаю,—яшчэ больш сумна сказала яна.

— Чаму ніхто з нашай вёскі не вучыцца?—дапытваўся я.

— Няма як,—прашаптала маці.

Павінен прызнацца, што такія планы не надта кружылі мне галаву, бо не выклікалі ніякага канкрэтнага вобраза. Я нават жывога настаўніка і пісара яшчэ не бачыў, не ведаў, як яны жывуць: не бачыў школы, вучняў, кнігі.

Мусіць, маці заўважыла, што словы яе нічога мне не гавораць, што ў мяне не відаць надта вялікай зацікаўленасці да вучонай кар'еры,—і яна парашыла прадэманстраваць мне на практыцы ўсю веліч гэтай кар'еры.

Адбылося гэта зусім выпадкова для мяне. Хадзілі мы гэтак па лесе, хадзілі—і вышлі на нейкае балоцістае поле. На ўскрайку лесу, сярод яшчэ невыкарчаваных пнёў, стаяла сяліба. Па будынках было відаць, што гаспадары пасяліліся тут нядаўна.

Мы ўвайшлі ў двор. Зараз-жа апанавалі нас сабакі. Выратавала дзяўчынка: правяла ў хату. Гаспадары сустрэлі маю маму, як знаёмыя, але без асаблівай радасці. Была яшчэ там жанчына гарадскога выгляду з малым дзіцем.

А самае галоўнае—нас пасадзілі за стол і далі тварагу з малаком. І тварагу многа і малака многа! Таму я нічога не ведаю, што там далей было і што гаварылася.

Нарэшце, надышоў момант, калі я сваімі ўласнымі вачыма павінен быў убачыць тое, што дае вучэнне. У хату ўвайшоў важны пан, у пенснэ,

з бародкай, у белым кіцелі з залатымі гузікамі. На нагах блiскучыя чорныя бацінкі і роўныя чорныя штаны, на галаве—шапка з белым верхам, сінім аксамітным аколышкам і залатым значком. Пан прывітаўся з мамай за руку і нават мне, палажыўшы руку на галаву, ласкава сказаў:

— Во які малайчына!

А «малайчына» гэты быў абшарпаным залатушным замарышам з крывымі рахітнымі нагамі ў лапцях.

Больш увагі на мяне пан не звяртаў. Не памятаю, каб ён доўга гутарыў і з мамаю. Але ўсё-ж такі гонар для нас быў вялікі.

Калі мы ішлі тым-жа лесам назад, маці казала мне:

— Вось што дае вучэнне! Гэты пан быў такім самым сялянскім хлопчыкам, як і ты. Ён нават наш сваяк, хоць і далёкі.

Што ён быў далёкі, відаць яшчэ і з таго, што ніякага дачынення ён да нас не меў, у нашай вёсцы пры мне ні разу не быў і наогул больш яго я ніколі не бачыў.

**(Працяг будзе).**

---



Хто з вас не ведае вавёрку—гэтую лясную прыгажуню, якая так спрытна скача па галінках дрэў! Яе доўгія заднія ножкі робяць такі моцны штуршок у час скачка, яе цельца настолькі гнуткае, а пушысты доўгі хвост так добра выконвае ролю руля ў час яе «паветраных падарожжаў», што няма такіх цяжкіх і замыславатых скачкоў, якія не ўдаваліся-б вавёрцы. Не мала ёй дапамагаюць пры гэтым і яе лапкі, на якіх усе пальцы вольныя, а не зрасліся адзін з адным, як у шмат якіх іншых звяроў. На канцах пальцаў яна мае доўгія і вельмі вострыя кіпцюры. Таму вавёрка можа спрытна ўзбірацца па ствалу і моцна трымацца на тонкіх галінках.

Вавёрка хутка і спрытна разгрызае арэхі, абгрызае, шукаючы насення, яловую шышку. У гэтым ёй дапамагаюць чатыры пярэднія зубы-долатцы, якія, не гледзячы на тое, што вавёрка бесперапынна сціраае іх аб цвёрдую шкарлупу арэхаў, увесь час вострыя і аднолькавай даўжыні. Тлумачыцца гэта тым, што яны па меры сцірання ўвесь час растуць.

Вавёрка есць жалуды, насенне розных хваёвых дрэў, грыбы, парасткі і кару маладых дрэў, а таксама ласуецца і птушынымі яйкамі. Асабліва церпяць ад яе карысныя лясныя птушкі, якія жывуць у дуплах дрэў.

У час яды вавёрка сядзіць на задніх лапках і трымае ў пярэдніх тое, што яна грызе, напрыклад арэх, яловую шышку і інш.

Вясной вавёрка будуе сабе крытае гняздо, з адтулінай збоку, з тонкіх галін, у якім яна гадуе сваіх дзяцей. Бацькі вельмі клапоцяцца аб дзецях і ў выпадку небяспекі пераносяць іх у зубах у іншае месца.

З надыходам восені, калі маладыя вавёркі падрастуць, яны разыходзяцца ў розныя бакі і вядуць самастойнае жыццё.

На зіму вавёрка робіць сабе запасы з арэхаў, жалудоў і складае іх у якое-небудзь дупло або пад карэнне дрэва. Вавёрка ўмее нават сушыць сабе грыбы, нанізваючы іх на вострыя канцы зламаных галінак дрэў. У час моцных марозаў або завірух вавёрка хаваецца ў дупле або гняздзе і спіць там цэлымі днямі, накрыўшыся, каб было цяплей, сваім пушыстым хвастом. Пройдуць марозы, настане добрае надвор'е—вавёрка прачнецца і зноў заскача па дрэвах.

Летам вавёрка мае рыжую поўсць, на зіму-ж яна яе змяняе на больш пушыстую і цёплую шэрую шубку.

# Дзяцел

*Паводле КАЙГАРАДАВА*



Шмат ёсць на свеце розных цікавых музыкаў, але самы дзіўны з іх той, які ўмее барабаніць носам па сухому дрэву, і прытым барабаніць так гучна, што часам бывае чуваць амаль за кілометр... Гэтага дзіўнага «музыку» вы можаце чуць у вясновы час, раніцой (часам таксама і ў ясныя, цёплыя асеннія дні), амаль у кожным лесе, нават у вялікім парку.

З вялікай хуткасцю і сілай б'е дзяцел сваёй дзюбай па сухому дрэву. Навокал рассыпаюцца гукі; яны так прыемна гучаць для вуха чалавека, які любіць лясную прыроду.

Дзяцел мае вельмі моцныя дзюбу і чэрап. Ён лёгка разбівае не толькі лясныя арэхі, але таксама выдзёўбвае ў здаровым дрэве вялікія дзіркі не горш цесляра. Гэтага, апрача дзятла, не можа рабіць ні адна з іншых нашых птушак.

Дзяцел вялікі майстра лазіць па дрэвах, прычым ён лазіць больш, чым лятае. На зямлю спускаецца рэдка і ходзіць па ёй няспрытна і нязграбна.

Дзяцел—самая лясная з усіх лясных птушак. У ствале ляснога дрэва знаходзіцца і яго гняздо.

Усе нашы дзятлы вельмі прыгожыя птушкі. Яркія фарбы, раптоўныя пераходы ад чорнага колеру да чыста-белага, ад ярка-чырвонага да зялёнага адрозніваюць дзятлаў ад іншых нашых птушак.

Хто бываў у лесе, той, вядома, не раз чуў, як дзяцел дзяўбе сваёй дзюбай дрэва. Найчасцей гэта азначае, што паважаны дзяцел снедае або абедае, а магчыма і вячэрае—у залежнасці ад часу дня. Сваёй вострай і моцнай дзюбай ён выдзёўбвае з-пад кары або з гнілога ці нават і здаровага дрэва розных насякомых і іх лічынак, якія шкодзяць лясным дрэвам: гэта—яго любімая і звычайная ежа. Апрача насякомых дзяцел есць таксама насенне некаторых лясных дрэў, пераважна сасны і елкі. Сарваўшы з галінкі шышку, дзяцел ушчамляе яе ў разВіліну двух сучкоў або ў шчыліну кары і апрацоўвае яе сваёй моцнай дзюбай, выцягваючы вострым канцом языка насенне.

Амаль усе дзятлы любяць ласавацца мурашкамі або іхнімі кукалкамі. Растрывожыўшы мурашнік, дзяцел засоўвае ў яго свой доўгі, ліпкі язык і, калі мурашкі аблепяць яго, хутка ўцягвае зноў у рот і, такім чынам, праглынае за адзін раз нямала гэтых насякомых.

З надыходам вясны ў дзятла, як і ў іншых птушак, пачынаюцца клопаты па вываду дзяцей. Гняздом з'яўляецца дупло дрэва або часцей за ўсё ўглыбленне, якое выдзёўбваецца ў ствале гнілога ці загніваючага дрэва. Дзятліха нясе 5—7 белых, бліскучых, як фарфар, яечак, выседжваць якія дапамагае таксама і дзяцел. Уначы, калі дзятліха сядзіць на гняздзе, дзяцел начуе недалёка ад яе, у леташнім гняздзе або ў знарок выдзеўбаным «спальным памяшканні».

Праз некаторы час з'яўляюцца малыя дзятляняты, якіх бацькі старанна даглядаюць, вучаць лазіць па сценках свайго гнязда. Вылецеўшы з гнязда, маладыя дзятлы спачатку трымаюцца каля сваіх бацькоў, а потым разлятаюцца па аднаму па ваколіцы.

Усе нашыя дзятлы—аседлыя птушкі, пералётных паміж імі няма. Дзятлы—карысныя птушкі. Яны знішчаюць вялікую колькасць шкодных лясных насякомых. Апрача гэтага, яны робяць памяшканні для шмат якіх карысных птушак. Справа ў тым, што амаль усе дзятлы штогод выдзёўбваюць новае памяшканне для свайго гнязда; апрача таго, яны часта робяць сабе яшчэ па некалькі спальных памяшканняў,—не таму, што дзятлу мала аднаго спальнага памяшкання, а таму, што такія памяшканні часта захапляюць іншыя птушкі, якім дзяцел, не гледзячы на свой рашучы і энергічны характар, уступае, звычайна, без асабліва вялікага супраціўлення. Вось усімі гэтымі памяшканнямі і карыстаюцца лясныя птушкі.

*М. ІЛЫН*

# ЯК АЎТАМАБІЛЬ ВУЧЫЎСЯ ХАДЗІЦЬ

### Бабулька

Аўтамабіль і паравоз—блізкія сваякі. У іх адна і тая-ж бабулька. Яна жыве і да гэтага часу, але даўно ўжо не ходзіць, бо вельмі старая: у 1939 годзе ёй споўнілася сто семдзесят год.

Жыве яна ў прытулку для прастарэлых машын—у адным з парыжскіх музеяў.

З выгляду яна вельмі смешная: доўгая, на трох колах. Пасярэдзіне на ёй крэсла, а спераду—паравы кацёл. Відаць, смешна было глядзець на яе, калі яна хадзіла: коціцца на цябе велізарны кацёл, пыхкаючы дымам, нібы суп вязуць.



Але вы з яе не смейцеся. Ад яе бяруць пачатак цяперашнія нашы і паравоз і аўтамабіль.

### На нагах і на колах

А гэта што за пачвара? Ззаду самаварная труба, спераду руль. Наверсе сядзяць людзі. Аграмадзіна пыхкае і трасецца, скача нагамі і варочае коламі.

Гэта першы аўтобус паўзе па дарозе недалёка ад Лондана.

Справа адбываецца гадоў сто таму назад. Бабулька даўно ўжо адпачывае ў музеі. Яе будаўнік, інжынер Кюньо, ляжыць у магіле на парыжскіх могілках. Але другія інжынеры, англічане, вядуць далей работу Кюньо.

Нібы птушаняты з яек, вылазяць з іх майстэрняў нязграбныя паравыя павозкі. У адной труба спераду, у другой—ззаду. У адной тры колы, у другой—цэлых шэсць.

Гэта будучыя паравозы. Яны толькі вучацца хадзіць. Ёсць сярод іх такія, якія прабягаюць па дзесяць кілометраў у гадзіну, выпярэджваюць усіх пешаходаў. Людзі глядзяць і дзівяцца: вось-жа фокуснікі—паставілі печ на колы! Ды хіба-ж на ёй далёка заедзеш?

А ездзілі ў той час з горада ў горад у вялізных карэтах—дыліжансах. У кожнай карэце было набіта дзесяткі два пасажыраў. На страсе сядзеў фурман і хвастаў доўгім бізуном чацвёрку коней. Побач з ім сядзеў паштальён і трубіў у ражок.

— Сцеражыся! Кур'ерскі дыліжанс едзе!

Цяжкая карэта ўвесь час правальваецца ў выбоіны, падскоквае, хіліцца на бок. Вось-вось, здаецца, перакуліцца! Пыл за карэтай доўга не можа ўлегчыся.

І вось па гэтай-жа дарозе пакацілі, нарэшце, паравыя дыліжансы.

Пачвара з самаварнай трубой і нагамі—гэта і ёсць першы паравы дыліжанс. Будаўнік яго, механік Гардон, разважаў так: у каня ногі, а ў павозкі—колы; каб колы пакаціліся, трэба, каб спачатку ногі пайшлі. Вось ён і прымайстраваў да сваёй паравой павозкі ногі. А яны толькі блыталіся між коламі і перашкаджалі.

Другі механік—Гернэй—пабудаваў паравыя дыліжансы без ног і пачаў вазіць пасажыраў з Лондана ў прыгарадныя вёскі.



Дыліжансы Гернэя лакіраваныя, падобныя на карэту. Толькі ззаду тырчаць, як жэралы гармат, цэлых тры трубы. Колаў шэсць: адна пара вялізных, у рост чалавека, другая крыху меншая, а трэцяя зусім маленькая. Маленькія колы едуць далёка спераду, нібы коні перад павозкай.

Калі павярнуць руль управа, пярэднія колцы едуць управа, а за імі ўся павозка. Паравы кацёл ужо не тырчыць на віду, як у павозцы Кюньо, а схаваны ўнутры кузава.

З дымам і громам ідзе паравы дыліжанс па дарозе. Над ім тырчыць цэлы лес дымавых труб, высокіх мужчынскіх капелюшоў і пер'яў.



Шмат ворагаў было ў паравых дыліжансаў. Паклёпамі і насмешкамі стараліся яны загубіць новае вынаходніцтва.

Галоўным ворагам былі гаспадары конных дыліжансаў, у якіх новае вынаходніцтва адбірала заработкі. На баку ворагаў быў і англійскі ўрад. Ён пачаў выдаваць вельмі строгія правілы для паравых дыліжансаў. Адным з правілаў было—не перавышаць хуткасць руху ў горадзе звыш трох кілометраў. Хто-ж пасля гэтага паедзе на такой чарапасе!

**Малодшы брат супроць старэйшага**

Трыццаць год цягнулася вайна паміж паравымі і коннымі дыліжансамі. Перамаглі конныя, бо на іх баку быў урад.

Але быў у паравых дыліжансаў яшчэ адзін вораг. Гэта малодшы брат паравога дыліжанса—поезд.

У 1825 годзе інжынер Стэфенсон пабудаваў першую чыгунку—паставіў паравік на рэйкі. Гэта было правільна. Цяжкому паравіку не лёгка было хадзіць па выбоінах. А на рэйках ён пабег лёгка і хутка.




Вось гэта і зарэзала паравы дыліжанс. Дзе-ж яму было даганяць поезд, які плаўна імчаўся па гладкай сталёвай дарозе!

Хутка дыліжансы зусім звяліся.

**Перамога**

І раптам стары паравы дыліжанс зноў затрубіў у свой ражок. Ён паімчаўся па дарогах з нечуванай хуткасцю, пакідаючы далёка ззаду паштовых кляч.

Што-ж з ім здарылася? Паравы дыліжанс перастаў быць паравым!

Механік Даймлер пабудаваў бензінавы матор. Прэч цяжкі паравы кацёл, не патрэбна больш печы і скрынкі для вугалю!

Паглядзіце на малюнак. Якой лёгкай, простай і прыгожай стала «вогненная павозка»!



Гэта першы аўтамабіль. Гэта ўжо не паравоз, а хутчэй лёгкавая брычка. Здаецца, вось-вось у яе запрагуць коней.

Машыніст чысценькі, у белым каўнерыку. Яму не трэба мець справу з вугалем. Тоўсты пасажыр сядзіць на мяккім сядзенні і ўсміхаецца.

Адно толькі нязручна: матор тырчыць у нагах пасажыра, як вялікі бідон з малаком,—няма куды ногі паставіць. Матор яшчэ слабенькі, толькі ў паўтара разы мае больш сілы, як у каня.

А хістае гэты аўтамабіль на хаду, як старую дзедаўскую брычку. Пачакайце, кранецца з месца аўтамабіль—і пасажыр перастане ўсміхацца. Вытрасе, выматае брычка ўсю душу.

Каб не трэсла, трэба было або ўсе дарогі зрабіць роўнымі, або да колаў падушкі прывязаць.

Зрабілі і тое і другое. Цяпер ёсць дарогі гладкія і роўныя, як асфальтавы тратуар. А падушкамі сталі гумавыя шыны, надзьмутыя паветрам.

Лёгка пайшла такая машына па гладкай дарозе—пасажыр, як на мяккай канапе сядзіць.

Усё-б добра было, ды толькі матор быў яшчэ слабы і часта псаваўся. Здаралася, цягнуць валы забаставаўшы аўтамабіль, а машыніст падняў акуляры на шапку і сядзіць, апусціўшы галаву. Яму рабіць няма чаго—рагаты матор цягне аўтамабіль.

Але аўтамабіль з кожным годам рабіўся ўсё дужэйшым. Цяпер ёсць аўтамабільныя маторы ў тысячу конскіх сіл. Такія маторы ставяць на гоначных аўтамабілях.

Калісьці ў нас не было сваіх аўтамабіляў. Іх прывозілі з-за мяжы. А цяпер варта глянуць у акно, каб убачыць на вуліцы любога горада безліч машын, пабудаваных на савецкіх заводах.

У новым савецкім аўтамабілі ЗІС-110 вы адчуваеце сябе, як дома. Калі вам холадна, націсніце кнопку і шыбы самі падымуцца. Уключыце ацяпленне—і адразу-ж з радыятара пабяжыць па трубах цёплая вада. Калі вам сумна, уключыце радыёпрыёмнік і слухайце перадачы.

На гладкаму шасе ЗІС-110 прабягае за гадзіну сто сорак кіламетраў! І пры гэтым вы не адчуваеце так званай качкі.

А наша новая машына «Перамога»! Яе таксама нельга назваць ціхаходнай. Яна можа праходзіць па сто дзесяць кіламетраў у гадзіну. Калі паглядзіш на яе гладкія, закругленыя бакі, на яе выцягнуты хвост, здаецца, што гэта птушка, якой толькі крыллаў нехапае.

### Аўтамабіль, які ўмее хадзіць

Паглядзіце на аўтамабіль ЗІС. У ім няма нічога лішняга. Увесь ён просты, як страла. Нават, калі ён стаіць, здаецца, што ён ляціць. А які ён зручны, дужы, прасторны!

Параўнайце яго з аўтамабілямі, якія намаляваны на гэтых старонках. Вы ўбачыце, што за сто год аўтамабіль шмат разоў мяняўся. Былі ў яго ногі—прапалі. Быў паравы кацёл—знік. Тырчалі на страсе трубы—цяпер іх няма. Быў ён падобны спачатку на паравоз, потым на легкавую брычку, а цяпер ён падобны толькі на самога сябе.

Кожная рэч павінна быць падобна сама на сябе, мець сваю форму—лепшую для яе.





# Спрэчка
## машыны з чалавекам




*Е. СЕГАЛ*

Паспрачаўся аднойчы чалавек з машынай.

— Я дужэйшая за цябе, — сказала машына чалавеку. — Ты згінаешся пад цяжарам мяшка з бульбай, а я, жартуючы, падымаю паравоз і перастаўляю на другое месца пяціпавярховы дом.

Я спрытнейшая за цябе. Глядзі — ты і азірнуцца не паспееў, а я ўжо зрабіла тысячу абаротаў.

Ты часта бурчыш: «Мне не разарвацца, у мяне толькі дзве рукі». А ў мяне дзесяць рук. Я магу адразу рабіць дзесяць спраў дзесяццю прыладамі.

Ты кожны вечар кладзешся спаць. Трэцюю частку свайго жыцця ты праводзіш у пасцелі. А мне не патрэбен адпачынак. Мой рабочы дзень — 24 гадзіны ў суткі.

Я хоць і рэч, а бачу, чую, адчуваю лепш, чым ты.

Я бачу так далёка, што магла-б заўважыць на месяцы святло кішэннага ліхтарыка, калі-б там знайшоўся хто-небудзь, хто мог-бы гэты ліхтарык запаліць. Ты ледзь бачыш пылінку на сваім рукаве. Але гэтая пылінка ў дзесяткі тысяч разоў большая за тыя рэчы, якія я магу разглядзець.

Ты ганарышся сваімі пяццю пачуццямі. Але ў мяне не пяць пачуццяў, а сто.

Я магу ў поўным змроку намацаць над сабой хмару і сказаць, на якой яна вышыні. І я магу зверху праз хмары ўбачыць на зямлі абрысы гор і мораў. Я лёгка адшукаю дарогу ў тумане, калі нічога не відаць.

Я бачу святло і чую гукі, якіх не пачуў-бы самы востры слых.

Я дрыжу, калі на другім паўшар'і — за марамі, за акіянамі — звініць шкло ў вокнах ад самага лёгкага падзямельнага штуршка.

Для мяне няма нічога захаванага і недаступнага.

Я чую нафту, схаваную пад зямлёй, і адчуваю горы на акіянскім дне.

Я і цябе бачу наскрозь. Хочаш, я пакажу табе твае ўласныя косці?

Запытайся ў мяне, ці ёсць драбінка солі ў возеры вады, і я дам табе дакладны адказ.

Загадай мне даведацца, ці цёпла на Марсе, і я даведаюся, застаючыся на Зямлі.

Я магу зрабіць так, каб ты чуў святло і бачыў гук.

Я магу спыніць час, каб ты ўбачыў кулю ў паветры і паветраную хвалю ззаду яе. І я магу так паскорыць бег гадзін і дзён, што ты зможаш разглядзець, як кветка на яблыні ператвараецца ў яблыка.

Хочаш пабыць ў тэатры, не выходзячы з дому? Я рассуну сцены тэатра, як заслону, і ты ўбачыш акцёраў, якія іграюць у другім горадзе.

Або, можа, ты хацеў-бы ўбачыць і пачуць артыстаў, якіх даўно ўжо няма на свеце? Загадай мне, і я выканаю тваё жаданне.

Ты скажаш, што я слуга, а ты гаспадар, што твая справа загадваць, а мая— падначальвацца. Але я магу камандаваць не горш за цябе. Я магу сачыць на фабрыцы за прыборамі і аддаваць загады машынам, націскаючы на кнопкі. Я магу без тваёй дапамогі кіраваць электрычнай станцыяй або цэхам завода.

Ты ганарышся тым, што ў цябе ёсць мазгі, што ты багата ведаеш і памятаеш, што ты ўмееш чытаць і пісаць. Але дай мне ў рукі пяро, і я буду акуратна весці дзённік і запісваць усё, што хочаш: якое надвор'е, ці шмат вады ў рацэ, ці добра працуюць машыны на фабрыцы. Я магу адна, без тваёй дапамогі, цэлы год весці навуковыя назіранні на пустой скале сярод акіяна.

Я не вучылася ў школе, але дай мне любую задачу, і я рашу яе.

Я сама ўмею рысаваць, разлічваць і будаваць.

Ты павінен дзякаваць мне за ўсё тое, чым ты ганарышся. Калі ты лётаеш над хмарамі, дык гэта таму, што я цябе туды падымаю. Калі ты плаваеш пад вадой, дык толькі таму, што я цябе бяру туды з сабой.

Я адкрываю таямніцы, якіх без мяне ты ніколі-б не разгадаў.

Што-ж ты значыў-бы без мяне?

Ты маўчыш? Што-ж ты можаш сказаць у адказ?

— Толькі тое, — адказаў чалавек, — што цябе выдумаў я.

І, сказаўшы гэта, чалавек пераменіў пласцінку патэфона.



## Рэбус




## НЕ АДРЫВАЮЧЫ АЛОЎКА

Фігура, якая складаецца з двух перакрыжаваных поўмесяцаў, уяўляе сабой подпіс Магамета, які жыў у VII стагоддзі. Гэты подпіс Магамет рабіў канцом вострага мяча. Паспрабуйце і вы, не адрываючы алоўка, намаляваць такую фігуру. Цяпер паспрабуйце такім-жа чынам намаляваць і апошнія фігуры. Пры гэтым трэба памятаць, што два разы па адным месцы чарціць нельга.









## ЧАРОЎНЫ ШАР

**(Фокус)**

Надзьміце мыльны пузыр. Калі паднесці на некаторай адлегласці да яго наэлектрызаваны грэбень (пацёрты аб валасы ці суконку),—вы прымусіце пузыр плаваць у паветры ў любым напрамку за грэбенем. Трэба толькі сачыць, каб пузыр не дакрануўся да грэбеня, бо лопне.

## ЗМЕСТ



**На вокладцы: мал. А. Волкава «У садзе».**
**На ўкладках: Урачыстае абяцанне юнака піонера —мал. Ф. Круглянскага. Восень—гравюра А. Тычыны.**

„Берёзка"—на белорусском языке. Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Пушкіна, 55, Дом друку.

Адказны рэдактар **А. Якімовіч.**

АТ 0116 Здана ў набор 5/VIII—46 г. Падпісана да друку 2/X—46 г. Друк арк. 3.

Друкарня імені Сталіна. Мінск, Пушкіна 55. Тыраж 10 000 экз. Зак. 288.

# САСОНКА

(Для дзіцячага хора з фортапіяна)

*Словы Янкі КУПАЛЫ*

*Музыка Н. САКАЛОЎСКАГА*

Andante.

Хор

Ф-п.

*А хто-ж, хто са — сон-ку гэ-ту ў ле-се се — яў? Ой, за — се-яў я-е вет-рык, што над*

*mf*

*più mosso*

*ха-тай ве — е. Ой, за - ха-тай ве —— е.*

*rit.*

А хто-ж, хто сасонку гэту ў лесе сеяў?
Ой, засеяў яе ветрык, што над хатай вее.
(2 разы)

А хто-ж, хто сасонку папаіў вадзіцай?
Ой, паілі яе сытпа росы і крыніцы.
(2 разы)

А хто-ж, хто сасонку грэе ў сонным боры?
Агравала яе сонца з-пад нябесных зораў.
(2 разы)

А хто-ж, хто сасонку выхаваў з зярняці?
Выхавала яе гэта наша зямля-маці.
(2 разы)

Цана 5 руб.




*Будзем чэмпіёнамі!*

**На здымку:** Валеры Шчукін — сын чэмпіёнкі БССР па мятанню кап'я і Руслана Рэнель — дачка чэмпіёнаў па бегу.

Фота **В. Лупейкі.**